*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
**5**
КРАСАВІКА
1991 г.
№ 14 (3580)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)


## ЧЫТАЙЦЕ

### ЯКУЮ КУЛЬТУРУ АБАРОНІЦЬ ЗАКОН?

**Народны дэпутат БССР Я. Цумараў аб праекце Закона БССР аб культуры.**

СТАРОНКА 5.

### ЗБІЎШЫСЯ З ЕЗДЖАНАЙ ДАРОГІ

**Новае прачытанне раманаў І. Мележа.**

СТАРОНКІ 6—7.

### ЗА ТУРАМ ТУР...

**Якім быць помніку Францыску Скарыне ў Мінску!**



СТАРОНКА 11.

***Позірк у мінулае:***

### «БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ ПРАВЕДЗЕНА ПОЎНАСЦЮ...»

**Згадкі пра 20-я гады, калі ўпершыню за гісторыю Беларусі не толькі шчырыя сябры роднага краю, але і кіраўнікі рэспублікі ўзяліся за адраджэнне беларускай мовы і культуры.**

СТАРОНКА 13.

### ПРА ДЗЯДЗЬКУ

**Успаміны В. Ніжанкоўскай пра рэдактара «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава.**

СТАРОНКІ 14—15.

### МАЕМ «ЗАХОДНІЯ ЎСКРАІНЫ»?




**Беларуская школа на Гродзеншчыне: учора і сёння.**

СТАРОНКА 16.



## Вялікдзень

Як доўга мы за кратамі сядзелі,
Знявечаны цярплівасцю народ...
Пашлі надзею, Вербная нядзеля!
Шапні замову, старажытны род!

Зняважаны, расцяты і распяты,
Гукні вясну, мой нескароны люд!
Спавітыя жальбою Курапаты —
Тваёй глухой маўклівасці прысуд.

Шляхі вядуць да храмаў ацалелых.
Бруяць крыніцы ля святых дарог.
Уваскрасае бел-чырвона-белы
Дзядоўскі сцяг ахвярных перамог.

Палае сонца шчодра на Вялікдзень.
Дружына валачобная ўстае...
Якімі з вамі парасткамі ўзыдзем,
Мае вы людцы, любыя мае?

Антаніна ХАТЭНКА.

# РАХУНАК ДАПАМОГІ

2 красавіка ў Карму і Нароўлю прыбылі медыкаменты і абутак — дар рабочых з германскага горада Эрфурта пацярпеўшым у чарнобыльскай катастрофе. Гуманітарную дапамогу даставілі члены Магдэбургскага камітэта «Дзеці Чарнобыля».

Гэта — усяго адзін прыклад супрацоўніцтва Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» з замежнымі дабрачыннымі арганізацыямі. Апошнім часам яго міжнародныя кантакты становяцца ўсё больш інтэнсіўнымі. Нядаўна ў фондзе адбылася сустрэча з членам Берлінскага камітэта «Дзеці Чарнобыля» доктарам С. Пфлюкбайлем (пра гэта «ЛіМ» паведамляў раней). Абмяркоўвалася, у прыватнасці, падрыхтоўка да міжнароднай канферэнцыі ў Берліне «Цана празмерна высокая», у якой прымуць удзел ліквідатары чарнобыльскай катастрофы. Яна пачнецца 12 красавіка. Днямі госцем беларускай дабрачыннай арганізацыі быў член фонду Генрыха Бёля (Кёльн) Г. Шродэр. Ужо цяпер у рэспубліцы фарміруюцца групы пацярпеўшых дзяцей, якія паедуць на летнія канікулы ў Германію, Данію, іншыя краіны Еўропы.

Дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», якім кіруе народны дэпутат БССР Г. Грушавы, створаны па ініцыятыве БНФ, не так даўно набыў афіцыйны статус. Яго заснавальнікамі сталі Мінскі камерцыйны банк (Мікабанк), Саюз мастакоў Беларусі і Саюз кінематаграфістаў БССР. Дабрачынную дапамогу цяпер можна пераводзіць на разліковы рахунак у Мінскім камерцыйным банку 700813, МФО 400417; валютны рахунак 803161200 і 300700416 у Знешэканомбанку СССР, МФО 805153.

НАШ КАР.



## СВЯТА СЛАВЯНСКІХ ТЭАТРАЎ

**Сёння, 5 красавіка, у Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы адкрываецца фестываль «Славянскія тэатральныя сустрэчы». Адкрываецца беларускім спектаклем «Страсці па Аўдзею» У. Бутрамеева ў рэжысуры В. Раеўскага.**

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

НА ПАВАРОЦЕ

# СТАНЦЫЯ «КАСТРЫЧНІЦКАЯ», ПЕРАХОД ДА РЫНКАВАЙ ЭКАНОМІКІ

**УВАБРАЛАСЯ ў пару яшчэ адна вясна, на якую сёлета прыпадаюць шостыя ўгодкі перабудовы. Слова гэтае сёння сур'ёзна нікім ужо не прамаўляецца. Гэтаксама як і колішнія лозунгі, накшталт, «больш дэмакратыі — больш сацыялізму». Спроба ўтаймаваць ланцуговую рэакцыю распаду не ўдалася. Ці шкадаваць нам з гэтай прычыны, ведаючы, ШТО распадаецца?**

**Не думаю. Руйнуецца ўсеўладная і заснаваная на грубай сіле імперыя. Шкада, праўда, што гэтулькі часу патрачана на безнадзейны ў прынцыпе занятак — склейванне чарапкоў.**

**Але, мабыць, і немагчыма было адразу вылузнуцца з уласнага мінулага, у якім мы ўгразлі па самыя вушы. Трэба было прайсці і праз захапленне перабудовачнай фразеалогіяй. Іншая справа—цяпер не грашыць ліберальным словапляценнем.**

**Трывожыць сёння не так параліч уладных структур, як крызіс дэмакратычнага руху. «Месяцы «побач з рычагамі ўлады», якія не падарылі нават маленькага зруху да лепшага, — піша на старонках «Московских новостей» Алег Папцоў, — сталі перыядам найжорсткага разладу сярод дэмакратаў. І гэта натуральна: разлад заўсёды там, дзе няма вынікаў справы».**

**Здавалася б, нягледзячы на актывізацыю кансерватыўных сіл, на ўціск галоснасці і непрыстойнае цкаванне праціўнікаў «сацыялістычнага выбару», — асноўныя заваёвы дэмакратызацыі захоўваюцца. Утвараюцца і распачынаюць дзейнасць новыя партыі. На фоне ўсё больш рашучых патрабаванняў адстаўкі Прэзідэнта і Кабінета міністраў нікога не падманваюць фармальныя вынікі нядаўняга рэферэндуму. Нечарговы З'езд народных дэпутатаў Расіі, ініцыіраваны антыельцынскім блокам, аказаўся бясплённым...**

**Але відавочна мінае час дэмакратыі «ўвогуле», дэмакратыі як эфемернага настрою, дэмакратыі як featureрозкалярованага спектру, радыкалізму.**

**АПОШНІЯ тыдні вялікага паста нашы грамадзяне асабліва дбалі пра хлеб надзённы. Савецкага чалавека зноў — каторы ўжо раз! — паставілі ў нечалавечыя ўмовы. І ён зноў іх прыняў, распачаўшы новы віток барацьбы за выжыванне. Формы гэтай барацьбы сведчаць, што ўзровень цывілізаванасці «самай чытаючай» краіны надта і надта перабольшаны. Жыццё сямігадовага хлапчука, затаптанага ў чарзе, — на чыім яно сумленні?**

**Тым часам сакавіцкі шал змяніўся на красавіцкі шок.**

**2 красавіка Мінск, паводле маіх назіранняў, быў апанаваны нейкім здранцвеннем. Цяжка сказаць, што ўразіла людзей найбольш — самі па сабе новыя цэны, па-ранейшаму пустыя прылаўкі ці перспектыва, маючы заробкі мазамбікскіх жабракоў, плаціць чортведама колькі за тое, што ў нармальным свеце паважаючы сябе чалавек не есць і не носіць? Мабыць, і першае, і другое, і трэцяе, і многае іншае, што, сабранае разам, стварае гнятлівы комплекс безвыходнасці... Падобна на тое, што змрочны жарт «каб ты жыў на адну зарплату!» пачынае спраўджвацца для большасці насельніцтва.**

**Хопіць палохаць людзей, давайце дапаможам ім аднавіць душэўную раўнавагу, па-пастырску гаворыць першы сакратар ЦК КПБ. Праявім вытрымку і разважлівасць, заклікае прэм'ер-міністр рэспублікі. Але пры ўсёй сацыяльнай апатыі на парадак дня настойліва просіцца пытанне: «А навошта?» Дзеля чаго, уласна, цярпець такое рэзкае і прагрэсіруючае зніжэнне жыццёвага ўзроўню, якое пагражае абярнуцца сапраўднай галечай?**

**Адна справа — свядомае самаабмежаванне народа ў імя зразумелай усім і ўсімі прынятай мэты, дасягальнасць якой абгрунтаваная і вымагае пэўнай платы. І зусім іншая справа — агонія сістэмы, якая патрабуе ўсё новых і новых ахвяр, рызыкуючы перацягнуць і без таго напятыя струны звычайнай чалавечай трываласці.**

**Тое, што 3 красавіка забастоўкай выбухнуў Мінск, сталіца ці не самай добранадзейнай рэспублікі СССР, — факт надзвычай красамоўны. Пакуль складана меркаваць, як будуць разгортвацца падзеі, наколькі натуральным у гэтай акцыі быў пераход ад эмацыянальнага ўсплёску да выразных палітычных патрабаванняў, пад якія сцягі ўстане рабочы рух, каго з лідэраў прыме або вылучыць. У адно хочацца верыць пэўна — беззваротна мінае час «чалавека-цвікоў», сакрушальным кавадлам загнаных па самыя плешкі.**

Андрэй ГАНЧАРОЎ.

# ВАЙНА НЕПАТРЭБНА НІКОМУ

## Беларускія дэпутаты пра канфлікт на поўначы Грузіі

Вось ужо некалькі год амаль кожны дзень прыносіць трагічныя весткі аб так званых «нацыянальных канфліктах» — у Сярэдняй Азіі, Закаўказзі, Малдове, Прыбалтыцы. Не бачна заканчэння вайны ў Карабаху. Льецца кроў у Паўднёвай Асеціі. І самае страшнае, што мы з кожным днём усё больш прызвычайваемся да таго, што гінуць людзі, вынішчаюцца цэлыя паселішчы, з'яўляюцца ўсё новыя і новыя тысячы бежанцаў...

Між тым, у той жа Паўднёвай Асеціі — не лакальны канфлікт. Гэта свайго роду мадэль узаемаадносін паміж Цэнтрам, рэспублікамі і аўтаноміямі ў цяперашні час. Пра гэта гаварылася на прэс-канферэнцыі народнага дэпутата СССР **А. Дабравольскага** і народнага дэпутата БССР **Я. Новікава**, якія нядаўна вярнуліся з паездкі ў Тбілісі і Цхінвалі ў складзе дэлегацыі Дэмакратычнага кангрэса.

У дэлегацыю ўваходзілі прадстаўнікі партый і арганізацый з розных рэспублік — украінскага «Руху», Рэспубліканскай партыі Расіі, сацыял-дэмакратычнай партыі Азербайджана, Дэмакратычнага кангрэса народаў Паўночнага Каўказа і г. д. А. Дабравольскі прадстаўляў Аб'яднаную дэмакратычную партыю Беларусі, Я. Новікаў — БНФ.

Яны расказалі аб сустрэчах са Старшынёй Вярхоўнага Савета Грузіі З. Гамсахурдзія, з прадстаўнікамі грузінскай апазіцыі — Нацыянальнага кангрэса, дэмакратычнай часткі Кампартыі Грузіі. У Цхінвалі, дзе члены дэлегацыі непасрэдна адчулі ўсю напружанасць сітуацыі (узброенае процістаянне, недахоп прадуктаў), прайшлі сустрэчы з кіраўнікамі Народнага фронту Паўднёвай Асеціі, абкома КПСС. Удзельнікі паездкі прынялі таксама ўдзел у канферэнцыі па правах чалавека ў Тбілісі, сустрэліся з камандаваннем Каўказскай ваеннай акругі, з кіраўніцтвам пракуратуры Грузіі, былі прыняты намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Бурчуладзе.

Па выніках паездкі дэлегацыя Дэмакратычнага кангрэса выпрацавала некаторыя падыходы дзеля пераадолення канфлікту на поўначы Грузіі. Прапановы, калі гаварыць сцісла, заключаюцца ў тым, каб шляхам перагавораў аднавіць статус-кво, якое было да абвяшчэння, з аднаго боку, Паўднёва-Асецінскай ССР і скасавання парламентам Грузіі, з другога боку, існаваўшай да таго Паўднёва-Асецінскай аўтаномнай вобласці. Пасрэднікамі на перагаворах, да якіх трэба дапусціць, у прыватнасці, былога старшыню аблсавета Кулумбегава (які зараз знаходзіцца пад арыштам у Тбілісі), могуць выступіць прадстаўнікі дэмакратычных сіл з іншых рэспублік. Каардынацыйны савет Дэмакратычнага кангрэса гатовы ў гэтым дапамагчы.

Як падкрэсліў на прэс-канферэнцыі Я. Новікаў, гэты канфлікт — палітычны, а не нацыянальны. Вайна не патрэбна ні грузінам, ні асецінам, ні іншым народам. Сітуацыя ў Паўднёвай Асеціі, на думку дэпутата, стала для Цэнтра той картай, якую ён імкнецца разыграць у барацьбе з палітычнай незалежнасцю Грузіі.

Але прычыны канфлікту — аб гэтым гаварыў А. Дабравольскі — не толькі ў пазіцыі Цэнтра. Яны — і ў палітыцы цяперашняга кіраўніцтва Грузіі, яго адносінах да нацыянальных меншасцяў, у парушэннях правоў чалавека. І самае трагічнае — абодва бакі ў канфлікце не хочуць прызнаваць уласных памылак, усю адказнасць ускладаюць адзін на аднаго.

Сітуацыя па абодва бакі Каўказскага хрыбта сёння вельмі і вельмі небяспечная, падкрэслівалася на прэс-канферэнцыі. Полымя можа ахапіць увесь поўдзень Расіі, дзе жывуць у цесным кантакце шмат розных народаў. І было б недальнабачна і наіўна думаць, што нас на Беларусі гэта ніяк не датычыць.

В. Т.

# ЗАПРАШАЕМ НА ВЕЧАРЫНУ!

Многім, напэўна, запомнілася беларуская хрысціянская вечарына, прымеркаваная да Каляд выступілі там святары — прадстаўнікі праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і уніяцкай канфесій, гучалі спевы царкоўных і свецкіх хораў. Не ўсе. хто жадаў, туды трапілі, і таму «Бацькаўшчына» вырашыла правесці Велікодную вечарыну ў больш прасторным памяшканні Палаца прафсаюзаў. На гэты раз, апрача рэлігійнай часткі, будзе і народная, як увасабленне радасці людской з нагоды ўваскрашэння Хрыстова, веснавога абуджэння.

Будзе прадавацца рэлігійная літаратура. у тым ліку і густоўна аздобленыя паштоўкі «Хрыстос Уваскрэс», толькі што адціснутыя выдавецтвам «Беларусь».

Вечарына адбудзецца 9 красавіка а 19 гадзіне. Даведкі па тэл. 27-59-29 (Палац прафсаюзаў) і 23-66-21 («Бацькаўшчына»).

Нашы каардынаты: Мінск, 220048, Сухая, 4. тэл. 23-66-21, тэлефакс 23-67-26.

**Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

# НАКІПЕЛА...

4 красавіка тысячы людзей — рабочыя МАЗа, маторнага і трактарнага заводаў, служачыя, студэнты, інтэлігенцыя — выйшлі на плошчу Леніна. Яны пратэставалі супраць павышэння цэн, супраць антынароднай палітыкі правячай партыі, патрабавалі ад улад прыняць неадкладныя меры па нармалізацыі эканомікі і стварэнні годных чалавека ўмоў жыцця.

З гранітнай урадавай трыбуны разам з членамі стачкомаў, створаных напярэдадні, іншымі рабочымі, пенсіянерамі выступілі народныя дэпутаты БССР Я. Новікаў, С. Антончык, старшыня выканкома Канфедэрацыі працы Беларусі М. Собаль, намеснік старшыні Сойма БНФ Ю. Хадыка...

Удзельнікі мітынгу заклікалі ўсіх працоўных ствараць забастовачныя камітэты і каардынаваць іх дзейнасць, захоўваць у час перагавораў з урадам і надалей спакой, згуртаванасць, высокую арганізаванасць, спыняць магчымыя правакацыі.

Віталь ТАРАС.

# Якую культуру абароніць закон?



Фота А. КЛЕШЧУКА.

Такога пытання можна было не задаваць, калі б беларуская нацыянальная культура квітнела і калі б «новая гістарычная супольнасць людзей» не стала субстратам той культуры, якая, нягледзячы на найменне «беларуская», зыходзіць з рускамоўнага «цэнтра» і займае ў большасці ўстаноў культуры БССР пануючае становішча. Не выклікае вялікага аптымізму тое, што ў Вярхоўны Савет БССР прыходзіць шмат лістоў і тэлеграм у падтрымку праекта Закона Беларускай ССР аб асновах заканадаўства БССР аб культуры, падпісаных, дарэчы, пераважна загадчыкамі аддзелаў культуры выканкомаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў /відаць, і аплачаных з дзяржаўнай кішэні/. На вялікі жаль, толькі прыкладна ў трох са ста лістоў і тэлеграм выказваецца заклапочанасць лёсам «беларускай культуры на беларускай мове». Гаворка ідзе не толькі пра Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР і Закон аб мовах у БССР, які замацаваў за беларускай мовай правы дзяржаўнай мовы. Тым, хто жыве культурай, цяпер вельмі цяжка. Крык душы не выбірае мовы; аднак іронія лёсу ў тым, што калі б у рэспубліцы намаганнямі дзеячаў і ўсіх работнікаў культуры была добра развіта беларуская нацыянальная культура, то не трэба было б і ўвогуле крычаць. У тых рэспубліках, дзе нацыянальныя культуры не занядбаны, заканадаўствам якраз і не збіраюцца культуру ратаваць. Такога заканадаўства не маюць развітыя еўрапейскія краіны.

Аднак што будзе мець грамадства Беларусі, калі запрацуе заканадаўства БССР аб культуры? На якую культуру пойдуць народныя грошы? Калі яно дапаможа ўтрымацца і расквітнець субкультуры і маскультуры ды яшчэ поруч з нацыянальным нігілізмам, то навошта такое заканадаўства! Відавочна, што ўмацаваць сілаю і аўтарытэтам закона трэба найперш традыцыйную беларускую культуру і яе больш ці менш развітыя сучасныя плыні, віды і формы. Стварэнне і рэальнае забеспячэнне прыярытэтных умоў для развіцця беларускай культуры, а таксама захаванне і развіццё ў дзейнасці дзяржаўных устаноў культуры беларускай нацыянальна-культурнай асновы і ёсць галоўная мэта «ўвядзення» заканадаўства БССР аб культуры. Калі беларускі тэатр атрымлівае датацыю ад беларускай дзяржавы, то чаму ён ставіць толькі адзін з дзесяці спектакляў на нацыянальнай аснове і на беларускай мове?

На жаль, у прадстаўленым Саветам Міністраў БССР і ўхваленым ідэалагічнай камісіяй КПБ праекце закона гучна дэклараванае права на прыярытэтнае развіццё беларускай культуры ў рэспубліцы не атрымала паслядоўнага развіцця. Менавіта цяпер, пакуль праект закона, прыняты ў першым чытанні, не напоўнены канкрэтным зместам, трэба на поўны голас гаварыць аб тых яго палажэннях, якія маглі б загучаць па-іншаму. Паспрабуем акцэнтаваць на іх увагу ніжэй.

**Кіруючыя органы галіны культуры надзвычай хвалюе тое, што даводзіцца адмаўляцца ад так званага «кіравання» культурай. Новая сістэма ўзаемасувязей у галіне культуры без адміністравання і дыктату партыйна-дзяржаўных структур магчымая, калі гарантаваць законам ПАЎНАТУ ЗАБЕСПЯЧЭННЯ ПРАВОЎ прадпрыемствам, установам, арганізацыям і іншым аб'ектам і суб'ектам культурнай дзейнасці; калі дзяржава забяспечыць умовы для культурнай дзейнасці і свабоднае развіццё творчых саюзаў і іншых грамадска-культурных асацыяцый; калі ўрэгулююцца адносіны, звязаныя з істотным пашырэннем правоў грамадзян на творчасць; калі аўтарскія правы будуць забяспечвацца так, як гэта мае месца ў практыцы развітых краін; калі будзе дасягнута поўная самастойнасць у культурнай дзейнасці Беларускай дзяржавы пры адначасовай інтэграцыі культурных працэсаў, што адбываюцца ў рэспубліцы, у агульнаеўрапейскі і сусветны культурны працэс. Калі — нарэшце — будзе гарантавана неўмяшальніцтва ў творчасць дзеячаў культуры і мастацтва, як, зрэшты, і ў культурнае жыццё ўсяго народа з боку дзяржаўных органаў і партый. Калі культура стане служыць станаўленню грамадзянскай супольнасці, пазбавіцца абавязку весці прапаганду класавых і партыйна-палітычных дактрын. Толькі пры такіх умовах, на маю думку, закон паслужыць справе адраджэння багатых культурных традыцый беларускага народа, іх творчаму развіццю і ўзбагачэнню, а таксама ўдасканаленню форм і метадаў вывучэння і папулярызацыі скарбаў культуры, усёй нацыянальна-культурнай спадчыны.**

Закон павінен таксама зыходзіць з таго, што беларускі народ з'яўляецца творцам, носьбітам, выразнікам і спадкаемцам нацыянальнай культуры, і толькі ён мае права праз органы заканадаўчай і выканаўчай улады вырашаць пытанні аб лёсе, формах і шляхах развіцця культуры на сваёй нацыянальна-дзяржаўнай тэрыторыі. Таму ніякія іншыя структуры па-за межамі беларускага нацыянальна-дзяржаўнага ўтварэння не маюць права супрацьстаяць гэтай культуратворчай ролі асноўнага носьбіта суверэнітэту. Адной з «мёртвых» зон, неправамерна пакінутых за межамі заканадаўства аб культуры, стала дзейнасць творчых саюзаў і іншых грамадска-культурных асацыяцый. Такі заканадаўчы акт, пакідаючы за творчымі саюзамі і іншымі грамадскімі асацыяцыямі права на рэгуляванне дзейнасці прынятымі імі статутамі, забяспечваючы ім гарантыі і пэўныя льготы, павінен спрыяць рэалізацыі патэнцыялу творчай асобы і творчага калектыву, ствараць умовы для фундатарскай дзейнасці на карысць грамадска-культурных арганізацый, садзейнічаць усталяванню непасрэдных міжнародных культурных сувязей і інш. Аднак выяўляецца, што забеспячэнне прававой абароненасці і эканамічнай самастойнасці творчых саюзаў і іншых грамадска-культурных асацыяцый не зусім супадае з інтарэсамі грамадска-палітычных структур. Бо менавіта творчыя грамадскія арганізацыі з'яўляюцца асяродкамі «вальнадумства», а многія іх члены сталі прыхільнікамі альтэрнатыўных ідэалогій КПБ ідэйна-палітычных рухаў. Мяркуючы па дзеяннях ідэалагічных работнікаў КПБ, культура ўсё яшчэ застаецца арэнай палітычнай барацьбы.

У асновах заканадаўства аб культуры ў БССР нельга абысці ўвагай пытанні развіцця літаратурна-мастацкай творчасці. Прапануецца наступнае прачытанне адпаведнага артыкула:

**«Літаратурна-мастацкая творчасць з'яўляецца формай самаахвярнай грамадскай дзейнасці і пры захаванні пэўных умоў сведчыць аб маральна-этычнай вартасці і высокай грамадзянскай адказнасці асобы і ўсямерна заахвочваецца дзяржавай.**

**Беларуская ССР спрыяе развіццю і станаўленню літаратурных талентаў, забяспечвае аператыўнае выданне (абнародаванне іншымі шляхамі) таленавітых твораў літаратуры на беларускай мове, мовах нацыянальных супольнасцяў БССР.**

**Беларуская ССР забяспечвае прыярытэтныя ўмовы дзеля развіцця, ўзбагачэння беларускай мастацкай культуры. Пашырэнне літаратурна-мастацкай творчасці на беларускай мове з'яўляецца ўмовай фарміравання ў Беларусі грамадзянскай супольнасці і сацыяльна культурнага аднаўлення грамадства Беларусі».**

У тэкст закона неабходна ўключыць і артыкул «Культура і палітычная дзейнасць»:

**«Творчая дзейнасць у галіне мастацтва і культуры грамадзян, творчых калектываў, творчых саюзаў і іншых грамадска-культурных асацыяцый незалежная ад непасрэднага ўмяшальніцтва з боку палітычных партый і іншых грамадскіх асацыяцый, якія ажыццяўляюць палітычныя мэты, і накіроўваецца выключна на карысць культуры і ўсяго грамадства. Партыям і грамадскім арганізацыям, якія ставяць на мэце палітычную дзейнасць, забараняецца ў якой бы ні было форме дамагацца ад суб'ектаў культуратворчасці і аб'ектаў культурнай дзейнасці прапаганды класавых і партыйна-палітычных дактрын.**

**Тыя абмежаванні, якія вызначаны вышэй у адносінах да культура-творчай дзейнасці, не распаўсюджваюцца на культурна-асветную дзейнасць грамадзян, калі яна не з'яўляецца асновай або часткай службовай дзейнасці ў дзяржаўных установах культуры».**

Велізарнымі культурнымі каштоўнасцямі валодае таксама царква. Беларуская культура зацікаўлена ў пашырэнні канфесійнай дзейнасці на аснове нацыянальных рэлігійных традыцый. У гэтай сувязі прапануецца артыкул «Канфесіі і культурная дзейнасць», які можна запісаць у наступнай рэдакцыі:

**«Беларуская ССР сумесна з рэлігійнымі арганізацыямі забяспечвае захаванне і пераемнасць духоўнай культуры і традыцый мастацтва, звязаных з культавай дзейнасцю, а таксама стварае сацыяльна-эканамічныя гарантыі і ўмовы для грамадскага жыцця хрысціянскай культуры і культуры іншых канфесій Беларусі (культурнае дойлідства, іканапіс, царкоўнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, песенная і музычная культура і інш.).**

**Беларуская ССР стварае ўмовы для святкавання грамадзянамі БССР хрысціянскіх свят па праваслаўным, каталіцкім і уніяцкім календары, а таксама прадастаўляе вернікам азначаных і іншых канфесій і царкоўных абшчын, зарэгістраваных згодна заканадаўству БССР, права адзначаць святы і адпраўляць абрады паводле рэлігійных традыцый.**

**Беларуская ССР прадастаўляе хрысціянскім канфесіям на ўзаемапрымальных умовах эфірны час на дзяржаўным радыё і тэлебачанні для вяшчання і трансляцыі рэлігійных храмавых святаў, а таксама іншай культавай дзейнасці. Адпраўленне рэлігійных абрадаў, царкоўныя службы, а таксама вядзенне пропаведзей святарамі ўсіх канфесій на беларускай мове маюць прыярытэтнае права вяшчання і трансляцыі па беларускім дзяржаўным радыё і тэлебачанні».**

Дзейнасць значнай колькасці ўстаноў культуры БССР, часцей накіраваная не на развіццё беларускай культуры, носьбітам і творцам якой з'яўляецца большасць насельніцтва рэспублікі, не спрыяе памнажэнню нацыянальна-культурных набыткаў беларускага народа. Таму, ствараючы ўстановам культуры неабходныя ўмовы для плённай дзейнасці, забяспечваючы работнікам свабоду і самастойнасць творчасці, трэба арыентаваць іх на змену сацыяльнага «статуса» гэтых устаноў. Вышэйсказанаму адпавядае артыкул Сацыяльная арыентацыя дзейнасці ўстаноў культуры ў БССР:

**«Дзейнасць устаноў культуры, любая культурная дзейнасць у БССР накіравана на задавальненне культурных запатрабаванняў грамадзян БССР і іншых асобаў, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі, і служаць духоўнаму ўдасканаленню асобы, фарміраванню пачуцця нацыянальнай самасвядомасці і выхаванню грамадзяніна.**

**Дзейнасць устаноў культуры, палітычных, грамадска-культурных і рэлігійных асацыяцый, а таксама іншая культурная дзейнасць у БССР не можа накіроўвацца на духоўнае спусташэнне або вынішчэнне асобы, прапаганду жорсткасці, насілля, нацыянальнага нігілізму або нацыянальнай выключнасці, варожасці да іншых народаў, класаў і сацыяльных груп, абразу чалавечай годнасці».**

Праект закона абыходзіць праблемы адраджэння і развіцця традыцый народнага мастацтва, пашырэнне традыцыйных народных промыслаў, збору, сістэматызацыі і захавання разнастайных скарбаў народнай матэрыяльнай культуры Беларусі, а таксама забеспячэння збору, вывучэння і апублікавання вуснапаэтычнай народнай творчасці і заахвочвання выканаўцаў народных калектываў і прафесійных артыстаў у іх дзейнасці па прапагандзе вуснапаэтычнай народнай спадчыны ў Беларусі і за мяжою.

Патрабуюць новага «прачытання» і некаторыя іншыя артыкулы закона. Пры вызначэнні кола абавязкаў грамадзян БССР у дачыненні да культуры неабходна акрэсліць наступныя патрабаванні, якія апушчаны ў тэксце праекта закона: узбагачацца дасягненнямі сусветнай і беларускай нацыянальнай культуры і мастацтва, авалодваць беларускай мовай, паважаць традыцыі і нацыянальна-культурныя набыткі беларускага народа і ўсіх нацыянальна-культурных супольнасцей рэспублікі, не дапускаць праяў нігілістычных адносін, нецярпімасці або варожасці да беларускай культуры і мовы, раўназначна як да культуры і моў любой нацыянальнай супольнасці рэспублікі.

Акрамя гэтага, неабходна гарантаваць законам права доступу да скарбаў беларускай культуры на агульных падставах з грамадзянамі БССР, суайчыннікам за межамі Беларусі, стварыць умовы для іх беспярашкоднага вывучэння, папулярызацыі і творчага ўзбагачэння. Такія правы забяспечваюцца ці не ва ўсіх цывілізаваных краінах.

Істотным недахопам праекта закона з'яўляецца і тое, што ў ім не раскрываецца сутнасць і ўмовы ажыццяўлення фундатарскай дзейнасці на карысць культуры, а таксама не вызначаны льготы фізічным і юрыдычным асобам, якія яе аказваюць. Не менш важна акрэсліць, што фундатары не маюць права выстаўляць суб'ектам і аб'ектам культурнай творчасці, якім аказваецца дапамога, умовы палітычнага характару, а таксама патрабаванні, выкананне якіх можа прывесці да страт грамадскай маралі або ўшчымлення правоў грамадзян.

Важна ўзбагаціць праект закона палажэннямі аб ўмовах і характары атэстацыі работнікаў культуры, аб навуковых даследаваннях у галіне культуры, аб умовах дзейнасці грамадска-дзяржаўных арганізацый (фондаў) у галіне культуры. Трэба, нарэшце, сілаю закона зацвердзіць правы Беларускай дзяржавы на страчаныя ў час войнаў, незаконна вывезеныя або эвакуіраваныя прадметы і аб'екты нацыянальнай культурнай спадчыны Беларусі, а таксама іншага культурнага набытку БССР, і паслядоўна дамагацца іх вяртання беларускаму народу.

Беларусь, мабыць, стане першапраходцам у стварэнні заканадаўства аб культуры. Аднак усе мы з'яўляемся сведкамі таго, што законы могуць прымацца з палітычных меркаванняў і, застаючыся нездзейсненай дэкларацыяй, ціха адыходзіць у палітычны нябыт, так і не становячыся з'явай грамадскага жыцця. Працаўнікі культуры і мастацтва ўскладаюць надзеі на згаданае заканадаўства. Пакуль ёсць час, пакуль ідзе «напрацоўка» тэксту Закона аб асновах заканадаўства БССР аб культуры да другога чытання на IV сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, трэба не толькі заканадаўцам, але і дзеячам культуры і мастацтва не пашкадаваць часу і сіл, каб зрабіць яго вартым тысячагадовай культуры народа і адпаведным Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР.

**Яўген ЦУМАРАЎ,**
**народны дэпутат Беларускай ССР.**

# Зрабіць трэба больш

## Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР — 60 гадоў

Хутка плыве рака часу. Не так даўно, здаецца, адзначалі 50-годдзе Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, а вось ужо і 60 пастукалася ў акно. Вядома, падзея на сённяшні час не самая маштабная — асабліва на фоне тых, што адна за другой адбываюцца ў нашай краіне і ва ўсім свеце, але па-свойму прыкметная і значная — як нейкая вяха ў культурным жыцці, добрая нагода агледзецца, асэнсаваць мінулае, падвесці пэўныя вынікі, кінуць позірк наперад, — балазе цяпер гэта можна зрабіць у абстаноўцы большай ідэалагічнай разняволенасці і навуковай аб'ектыўнасці.

Тады, у 1981 годзе, інстытут быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў як установа, якая вывучала і шырока прапагандавала дасягненні беларускай літаратуры, асэнсоўваючы яе як непаўторную кветку ў букеце літаратур свету.

З нагоды юбілею варта ўспомніць папярэдніка Інстытута літаратуры і ўсёй Акадэміі навук БССР, — Інстытут беларускай культуры, вядомы ў 20-я гады буйны асяродак грамадскай навукі і культурнай дзейнасці ў рэспубліцы, у якім значнае месца займалі і філалагічныя навукі, у тым ліку літаратуразнаўства. Зразумела, беларуская філалогія і літаратуразнаўства ўзніклі і існавалі нашмат раней — яшчэ ў нашаніўскую пару і нават да гэтага. Класікам тут прызнаны Я. Ф. Карскі, якому належаць капітальныя працы ў галіне беларускай мовы, гісторыі, літаратуры і фальклору, славутая трохтомная манаграфія «Беларусы». Яе, дарэчы, цяпер бібліяграфічную рэдкасць, варта было б перавыдаць, каб мог карыстацца сучасны чытач.

Нельга не прыгадаць і першую сціслую «Гісторыю беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (1920), якая ў пачатку 20-х гадоў вытрымала некалькі выданняў, а сёлета, падрыхтаваная супрацоўнікамі Інстытута літаратуры, выходзіць нарэшце ізноў. Даўняя праца, як і «Беларусы» Я. Ф. Карскага, яна аказалася сёння ў многім вельмі прыдатнай і блізкай нам у метадалагічным плане — пры разглядзе гістарычных з'яў беларускай літаратуры і таксама з'яў сённяшніх.

Дата ўтварэння Інстытута літаратуры — згодна пастанове, паводле якой яно адбылося,— 29 сакавіка 1931 года. З той пары ад яго адпачкаваліся мовазнаўцы, мастацтвазнаўцы, фалькларысты... Зусім нядаўна, як атожылак Інстытута літаратуры, узнікла новае навуковае ўтварэнне — Скарынаўскі цэнтр.

Гісторыя Інстытута літаратуры — амаль што люстраны адбітак жыцця ўсяго нашага грамадства. У 30-я гады большасць яго навуковых супрацоўнікаў была рэпрэсіравана, умовы для працы зрабіліся цяжкімі. Таму застаецца здзіўляцца, як тыя, хто застаўся, здолелі напісаць гісторыю беларускай літаратуры. Праўда, выданню гэтай працы перашкодзіла вайна, а пасля вайны давялося ўсё пачынаць нанава.

Пасляваенны час — ён бліжэй да нас — таксама не просты. Рабілі ў межах магчымага, а магчымасцей было, як вядома, не шмат, паколькі ўся грамадская навука, страціўшы самастойнасць, стала прыдаткам афіцыйнай ідэалогіі. Пра гэты перыяд нехта з нашых вастрасловаў (якія ёсць у кожным калектыве) пры абмеркаванні аднаго рукапісу жартам сказаў: «Пішам мы аднолькава —хто лепш, хто горш». Жарт жартам, але ў ім ёсць доля горкай праўды.

Ёсць у ім, акрамя іншага, яшчэ і тая думка, што нам не хапае вучоных-літаратуразнаўцаў з яскрава выяўленым індывідуальным абліччам. Будзем спадзявацца, што ў будучым іх будзе больш, падставы для гэтага маюцца.

За шэсцьдзесят год калектывам інстытута створана шмат навуковых прац — праблемных артыкулаў, даследаванняў, манаграфій, зборнікаў, прысвечаных шматстайным пытанням развіцця беларускай літаратуры ва ўсіх яе жанрах і гістарычных перыядах.

Да дасягненняў беларускага літаратуразнаўства 60—70-х гадоў смела можна аднесці стварэнне чатырохтомнай гісторыі беларускай літаратуры — на беларускай мове і двухтомнай —на рускай. Рускамоўны двухтомнік па справядлівасці адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР — гэта была лепшая на той час гісторыя беларускай літаратуры, выданне, якое і да сённяшняга часу з'яўляецца падручным дапаможнікам для ўсіх, хто вывучае і знаёміцца з ёю. Разам з тым наспела патрэба ў напісанні новай гісторыі беларускай літаратуры. Гэта, думаецца, павінна быць акадэмічная праца, якая ўлічыць сучасныя дасягненні літаратурнай навукі, выведзе «белыя плямы» і паўней адлюструе мастацка-эстэтычны і духоўны вопыт беларускага народа. Сёння мы перажываем, пры ўсіх выдатках і непаслядоўнасці, перыяд адраджэння нацыянальнай свядомасці і культуры. Хацелася б, каб гэта станоўча адбілася на распрацоўцы новай гісторыі літаратуры.

З прац, завершаных у апошні час, хочацца выдзеліць вычарпальны па матэрыялах бібліяграфічны слоўнік «Пісьменнікі Беларусі» і грунтоўную манаграфію «Беларуска-рускія літаратурныя сувязі», якая, як і слоўнік, будзе выдадзена ў некалькіх тамах.

На слоўнік «Пісьменнікі Беларусі» ў шасці тамах, які ахоплівае не толькі беларускіх аўтараў, але і ўсіх іншых, што жылі і працавалі на Беларусі, аб'яўлена падпіска. Неўзабаве мае выйсці першы том.

Не менш цікавая манаграфія аб беларуска-рускім літаратурным узаемадзеянні ад старажытнасці да нашых дзён. Нельга бачыць у такой пастаноўцы пытання якую-небудзь праяву кан'юнктурнасці, як гэта можа каму-небудзь здацца. Паглядзець на беларускую літаратуру збоку — вельмі выйгрышны для яе ў тыпалагічным плане, таму што такі падыход дае дадатковае ўяўленне пра яе эстэтычны рэльеф, своеасаблівасць праяўлення літаратурна-мастацкіх заканамернасцей. Вывучэнне літаратурных сувязей уключае, як вядома, не толькі падабенства і сумежнасць пэўных з'яў і фактаў, але і іх процілегласць і кантраст, што дазваляе глыбей пазнаць іх сацыяльна-мастацкую прыроду. Гэта добра відаць, скажам, у раздзеле М. Арочкі (які я паспеў прачытаць у рукапісе), прысвечаным беларускай і рускай паэзіі на этапах прыблізна 30—70-х гадоў іх двухбаковым уплывам і ўзаемадзеянню. Даследчык, мне здаецца, шмат у чым зыходзіць з плённай думкі Б. Пастэрнака, які лічыў — па вялікаму рахунку, што «кепскіх і добрых радкоў не існуе, а бываюць дрэнныя і добрыя паэты, г. зн. цэлыя сістэмы мыслення, якія дзейнічаюць стваральна ці круцяцца ўхаластую». Многае круцілася ўхаластую! Не ў пашане былі тыя, хто ў 30-я гады і пазней шукаў «ценяў на сонцы». Адмаўляючыся ад праўды жыцця, звужаючы агульначалавечыя далягляды, беларуская і руская паэзія — і гэта пераканаўча даводзіць М. Арочка — у шматлікіх выпадках губляла свой духоўны і мастацкі статус і ідэйную самастойнасць. Адначасова ён імкнецца спасцігнуць і раскрыць багацце і шматстайнасць творчых кантактаў, якія існавалі паміж паэтамі братніх народаў.

Варта было б напісаць такую ж працу і пра беларуска-украінскія літаратурныя сувязі — яна б спрыяла глыбейшаму ўспрыманню і разуменню супольнасці і роднасці нашых лёсаў.

У кароткім юбілейным артыкуле пра ўсё расказаць немагчыма — ёсць у нас здабыткі і ў тэкстолагаў, ёсць цікавая кніга пра сучаснага чытача — «Сучасная літаратура і чытач».

Сёння ў інстытуце працуе

ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# З КЛОПАТАМ ПРА «АДЗЕННЕ ДУШЫ»

«Я прадракаю — беды перажыць, трываліць першародныя высновы, душы сваёй адзенне — роднасць мовы, цудоўнай беларускай нашай мовы не пакідай, мой край, калі ты хочаш жыць...»

Так вось пераасэнсаваў Багушэвічаў запавет Мікола Арочка на старонках 12-га нумара часопіса «Маладосць». Свой, як ён назваў, сцэнічны абразок паэт прысвяціў уяўнаму дыялогу выдатнага сына зямлі беларускай са збіральным вобразам нігіліста, які задае сакраментальнае пытанне: «Чаму ж замест сваёй, з мужыцкасцю нязводнай, суседнюю навек не выбраць роднай?».

Трэба сказаць, што сёння ў нашай перыёдыцы вершаў, прысвечаных мове, беларускаму Адраджэнню, даволі багата. Перачытаўшы вядучыя літаратурна-мастацкія часопісы апошніх месяцаў, я знайшоў нямала такіх радкоў. І гэта зразумела. Вызваліўшыся ад жорсткіх абдымкаў ідэалагічнай цэнзуры, адчуўшы магчымасць і патрэбу на ўвесь голас сказаць пра тое, што баліць, паэты паспяшаліся выказаць, вынесці гэты боль і трывогу на суд чытачоў. Іншая справа, наколькі пераканаўча атрымалася, ці закранула патаемныя струны чытацкіх душаў, ці выклікала зваротны водгук і памкненне зразумець пакутлівыя думкі і гарачыя словы.

Гартаю вялікія і малыя паэтычныя падборкі. Публіцыстыкі, канешне, нямала. Але ёсць і філасофскі роздум, і інтымная лірыка, і, так бы мовіць, пейзажнае сузіральніцтва, ёсць наватарскі пошук і вернасць традыцыям. Праўда, менш, чым хацелася б, сапраўдных адкрыццяў, яркіх незабыўных радкоў, таго пачуцця высокай узрушанасці, унутранага ўзлёту, якое суправаджае ўсё сапраўднае і вялікае. Але тут ужо, як кажуць, што маглі...

Ды ўсё ж, ёсць адно, што абнадзейвае, што ляжала ў самой аснове нашай літаратуры яшчэ ад часоў Купалы, Гаруна, Багдановіча, Гарэцкага, Коласа, Бядулі. Гэта пачуццё патрыятызму.

Сёння слова гэтае і пераасэнсоўваецца, і церпіць нападкі як з боку адчайных звышінтэрнацыяналістаў, так і тых, хто пад ім разумее «непарушнае двуадзінства праваслаўя і манархіі». Для патрыятызму ж беларускага былі заўсёды характэрныя пачуцці годнасці і незалежнасці, разважнай павагі да іншых і глыбокай талерантнасці.

Тым не менш, рысы, якія я назваў у пэўныя часы, сталі дзіўна гіпертрафіравацца, перарастаючы ў нейкі комплекс непаўнацэннасці, запабягання перад іншымі, утвараючы сіндром так званага «малодшага брата». Ён і сёння яшчэ адчувальны, але ўжо не такі магутны і ўсеабдымны, як яшчэ некалькі гадоў таму. Вось як перадае В. Шніп светаадчуванне сучаснага маладога чалавека:

**Моўчкі іду па дарозе забытай,**
**Моўчкі дарога вядзе да кладоў.**
**Памяць у барах яшчэ не прапіта,**
**Прозвішчы продкаў не змыты з крыжоў.**
**(Полымя», 1990, №11)**

З гэтымі радкамі ў тым жа нумары часопіса перагукаецца Данута Бічэль-Загнетава:

**...Але воін з мячом на белым кані,**
**дзе спрадвечную памяць далізвае стронцый,**
**сярод вечнага пылу і мітусні**
**зіхаціць у высокім сонцы.**

Зробім скідку на пэўную дэкларатыўнасць падобных паэтычных выказванняў. Выдаткі гэтыя непазбежныя. і бяда, калі яны ператворацца ў масавую з'яву (а небяспека такая ёсць), тым не менш для сцвярджэння ідэі, клопату пра «адзенне душы» ў нашай няпростай, часамі трагічнай сітуацыі, гарачыя і шчырыя высокія словы вельмі патрэбныя. Абы яны толькі не былі халодным, спрактыкаваным версіфікатарствам.

Але гэта толькі першы, вонкавы пласт патрыятызму. Куды больш складана, не прамаўляючы лозунгі, не кажучы словы «Радзіма», «народ», «мова», «памяць», важка і глыбока ўзнаўляць гэтыя паняцці, вяртаць іх першародны сэнс, іх існасць.

Вялікую падборку сваіх, як ён іх называе, вершаказаў змясціў у апошнім нумары часопіса «Беларусь» за мінулы год Алесь Разанаў. «Піла», «Свечка», «Студня», «Воўк»... — такія простыя, звыклыя, нават побытавыя паняцці. Ды ў Разанава, як заўсёды, яны сягаюць у прастору глыбокага роздуму, філасофскіх ідэй, нават пэўнага космасу думкі. Тым не менш паэт — думаю, аспрэчыць гэта будзе няпроста — глыбока нацыянальны, з высокім і моцным пачуццём патрыятызму. Спашлюся толькі на адзін са змешчаных у часопісе вершаказаў, які называецца «Воўк»:

**«Рускі волк «валюхаецца» ад Валаналамска да Валачаеўска і Ваўкавыска, ён вялікі як вол, лоўкі, нібы іголка, і ўвасабляе трыадзінства «воли», «алчности» і «лукавства»...»**

Так вось, на мяжы лінгвістыкі, філасофіі, фантазіі паэт дае характарыстыкі гучання слова ў розных славянскіх і неславянскіх мовах. Але паслухайце далей:

**«Польскі** vilk **віламі-інламі коле**
**ў Вілейцы свінню, а яе віскат чуваць у Вільні**
**Старалацінскі** wulk **жыве на вулкане»...**

І нарэшце апошні кароткі радок: «Беларускі в о ў к в ы е». А вось Рыгор Барадулін—такі, у параўнанні з Разанавым, традыцыйны, знаёмы:

**І дождж і кроў зямля ўбірае,**
**І пот і слёзы праз вякі,**
**Таму яна, зямля, сырая,**
**І ў дрэва вечнасці сукі**
**Не засыхаюць,**
**Бо вяртае**
**Святлу зялёныя лісты**
**Зямля няўдзячная, святая,**
**Што прызнае нарог ратая**
**І ратніка глухіяксты...**
**(«Маладосць», 1991, № 1)**

Мне здаецца, што глыбінная «нацыянальнасць» Барадуліна, ягоная канкрэтная «ўшацкасць», падмацаваная і густа змешаная апошнім часам з вонкавымі і глыбіннымі пластамі іншых характараў, літаратур, нацыянальных вартасцяў (дастаткова згадаць толькі ягоныя пераклады А. Вазнясенскага, М. Шагала, цыганскага паэта В. Калініна), дазволілі стаць яму як асобе і паэту больш глыбокім патрыётам, чым ён быў раней, калі нават пісаў сваё славутае «Трэба дома бываць часцей».

Я ўважліва пазнаёміўся з пазіцыяй многіх літаратараў, прадстаўнікоў так званай «русафільскай» плыні, якія гуртуюцца вакол часопісаў «Наш современник», «Москва», «Слово» (я не хачу гаварыць пра «Молодую гвардию», таму што яе пазіцыі настолькі крайнія, што амаль цалкам дыскрэдытуюць не толькі сам рух, але і асоб, якія ў гэтым выданні друкуюцца). Дык вось, услаўляючы рускі дух, рускія традыцыі, абараняючы рускі патрыятызм, многія несумненна таленавітыя і цікавыя творцы не заўважаюць, як становяцца агрэсіўнымі, шукаюць «унутранага ворага», таямнічых «масонаў» і г. д. Прычым, свядома ці несвядома ігнаруецца, што побач з Пушкіным і Фетам, Дастаеўскім і Герцэнам, Буніным і Ясеніным былі і, на жаль, ёсць традыцыі Мураўёва-вешальніка, што паняцце «турма народаў» не прыдумалі нейкія нефармалы ці сепаратысты.

На шчасце, дух талерантнасці і згоды, павагі да іншых народаў і нацыянальных рухаў у нашай беларускай літаратуры прысутнічае. І дарэмныя папрокі ў нацыяналізме такіх нашых пісьменнікаў, як Ніл Гілевіч ці Васіль Зуёнак, што прагучалі са старонак выдання, якое якраз, утрыруючы пэўную нацыянальную ідэю, дае прастор для інсінуацый наконт «происков инородцев».

Але вернемся да галоўнага прадмета размовы — вершаў. Вядома, тое, што надрукавана ў апошніх нумарах часопісаў, не дае поўнага ўражання, чым жыве наша сённяшняя паэзія. Тым не менш, застануцца, мне здаецца, у памяці чытачоў вершы С. Сокалава-Воюша ў «Беларусі» і «Полымі», М. Пракаповіча ў «Маладосці». Парадавалі нас часопісы і вяртаннем на радзіму твораў М. Сяднёва, і літаратурнай спадчынай нашага незабыўнага Уладзіміра Караткевіча.

Але не магу не сказаць аб небяспецы новай кан'юнктуры, калі высокія і святыя думкі і пачуцці не падмацаваны адпаведным «залатым запасам» паэтычнасці. Тады з'яўляюцца радкі накшталт такіх:

**Тварыў вось ут народ**
**Гісторыю вя амі...**
**Ці час не ў наш гарод**
**Шпурнуў**
**Барысаў камень!**

Бадай, трэба страціць у пэўным сэнсе пачуццё густу, каб вось так няўцямна і легкаважна гаварыць пра рэчы сапраўды балючыя, трывожныя.

Альбо такое, напрыклад, можна прачытаць у перыёдыцы:

**Шчэ баламуцяць свет балбатуны,**
**Чытаючы малебны на паперцы,**
**Ды падрастаюць дочкі і сыны,**
**Мы перад імі сёння на паверцы.**

Наўрад ці можна лічыць творчым дасягненнем і наступныя радкі:

**О, Вільня скарынаўскіх кніг**
**І одумаў юных яго.**
**З марозу да сініх адліг**
**Ідзі праз ахвярны агонь...**

Усё правільна, слушна, але... халаднавата, не напоўнена гарачым пачуццём, нейкімі адметнымі, знойдзенымі ў натхненні словамі. Часам ствараецца ўражанне, што ранейшыя так званыя «паравозікі» з паэтычных нізак, калі абавязкова трэба было ўславіць нашы здзяйсненні, аўтаматычна перайшлі ў некаторых паэтаў у абавязковыя радкі «на тэму патрыятызму».

На жаль, не хапае нам яшчэ цэльнасці ўнутранага свету, такой напружанай работы душы, якая выносіць на паперу самае існае, самае глыбокае, самае сапраўднае.

Патрыятызм, высокае і светлае служэнне Айчыне вымагаюць ад кожнага, хто бярэ на сябе адказнасць за слова, не проста клятвы ці дэкларацыі, не проста вернасці абраным ідэ-

каля сямідзесяці навуковых супрацоўнікаў (уключаючы аспірантаў). Сваё шасцідзесяцігоддзе калектыў сустракае новымі творчымі задумамі. Пра новую гісторыю беларускай літаратуры ўжо ішла гаворка. Тое-сёе падказала нам камісія ў складзе аўтарытэтных спецыялістаў у розных галінах гуманітарных навук, якая правярала дзейнасць інстытута. Камісія дала шэраг рэкамендацый і парад, у прыватнасці звярнула ўвагу на набліжэнне вялікай даты — 600-годдзя перамогі славян у Грунвальдскай бітве, якая шмат значыла для лёсу беларускага народа. Гэта знайшло адбітак у помніках беларускай літаратуры, цяпер напаўзабытых. Літаратурная рэмінісцэнцыя, літаратурныя «згукі» Грунвальдскай бітвы патрабуюць нашай пільнай увагі і вывучэння.

Шмат чакаем мы ад новай тэмы — «Літаратура і экалагічнае выхаванне чалавека», распрацоўкай якой заняты некалькі нашых старшых супрацоўнікаў.

Што непакоіць?

Раней частымі гасцямі ў нас былі пісьменнікі. Хадзіў раіцца Іван Мележ, калі пісаў сваю «Хроніку». Помніцца, у прысутнасці аўтараў абмяркоўваліся творы У. Караткевіча, Я. Брыля, В. Быкава... На жаль, пра гэта даводзіцца гаварыць у мінулым часе. Цяпер да нас заходзяць больш толькі, каб прачытаць матэрыялы ў бібліяграфічным слоўніку, — камунікабельнасць аслабла. Хацелася б усё ж такі больш цесных кантактаў.

Будзем верыць, што так яно і будзе. Здабыткі, як бачым ёсць, зроблена не мала, але зрабіць трэба больш і, дададзім, лепш.

**Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ,**
**намеснік дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР.**




алам, беззапаветнага ахвярнага служэння народу, чысціні спраў і памкненняў, а яшчэ і ўменне пераканаўча і глыбока перадаць гэтыя пачуцці, дайсці сваім словам да душы суразмоўцы.

Гэтага, а яшчэ нястомнага пошуку і рупнай працы зычу я сябрам па пяру і сабе.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**
г. Наваполацк

# ЗБІЎШЫСЯ З ЕЗДЖАНАЙ ДАРОГІ

*«Кланяюся вам, людзі, трыццатага года».*
І. МЕЛЕЖ.

Як і кожны па-сапраўднаму мастацкі твор, раманы Івана Мележа «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань...» невычарпальныя па сваім змесце, глыбіні думак, эстэтычнай напоўненасці. Новыя пакаленні прачытаюць іх па-новаму, знойдуць у творах сугучныя часу матывы. Па-новаму ўспрымаецца эпапея і сёння, іншымі вачыма бачыш яе герояў, па-іншаму ставішся да іх перажыванняў, помыслаў, імкненняў, пакут...

Аб творчасці Мележа напісана шмат, асабліва аб яго «Палескай хроніцы». Толькі наўрад ці возьмецца хто на сённяшні дзень сцвярджаць, што Мележу ў яго хроніцы ўдалося «яшчэ раз паказаць і сцвердзіць сацыяльную непазбежнасць і заканамернасць падзей выключнага грамадскага значэння». Хаця нашым ідэолагам ад камунізму хацелася б менавіта гэтага ад твораў пісьменнікаў: каб яны сцвярджалі сацыяльную непазбежнасць і гістарычную заканамернасць усіх іх дзеянняў. А Мележ усяго толькі праўдзіва адлюстраваў трагічныя падзеі тых гадоў з усёй сілай і глыбінёй свайго таленту. І ў гэтым яго моц.

Падзеі, апісаныя ў «Палескай хроніцы», знайшлі сваё лагічнае завяршэнне ў сённяшнім дні: на парадку дня зноў зямельнае пытанне — пытанне, якое мучала герояў мележаўскай эпапеі, займала ўсе іх думкі, вызначала іх лёс, складала сутнасць жыцця. Пасля ўсіх пакут, ахвяр, пасля страшнага эксперыменту над сялянствам, мы вярнуліся да таго, з чаго пачыналася Кастрычніцкая рэвалюцыя, з чаго, урэшце, пачынаюцца ўсе рэвалюцыі — з перагляду пытання аб зямлі, прыватнай уласнасці, свабоды... Круг замкнуўся.

Трагізм сялянства, праўдзіва адлюстраваны ў «Палескай хроніцы», выцякаў з таго, што імкненні куранёўскіх сялян быць незалежнымі гаспадарамі на сваёй уласнай зямлі, падзеленай паміж імі па-справядлівасці, ішлі ўразрэз з планамі, якія выспявалі ў галовах кіраўнікоў за крамлёўскімі сценамі.

Трагізм сучаснай сітуацыі ў тым, што цяперашнія кіраўнікі гатовы пайсці насустрач сялянству і задаволіць іх спрадвечную цягу да зямлі, ды... няма да каго ісці насустрач. Як сцвярджаюць у сваіх выступленнях многія дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, сялянства як класа ў нас больш не існуе. Каго мы будзем надзяляць зямлёй?.. У чые рукі трапіць яна?.. Дзе яны, тыя Дзятлікі, Чарнушкі, Нібыта-Ігнаты, Хоні, і іншыя руплівыя хлебаробы, якія маглі б накарміць народ? Ці мог Мележ, калі пісаў «Палескую хроніку», прадбачыць крах усёй калгасна-саўгаснай сістэмы?..

Яшчэ ўчора, даючы ацэнку калектывізацыі, усім яе выдаткам, перагібам, памылкам, мы яшчэ мірыліся неяк з праўдай, навязанай нам, што дзеля таго, каб вывесці на правільную цвёрдую дарогу (якая вядзе ў светлую будучыню) большую (і трэба разумець — лепшую) частку сялянства, дзеля яе шчасця і працвітання мы вымушаны былі ахвяраваць меншай (таксама мільённай) часткай. Сёння і гэтыя ілюзіі развеяліся. Адкрылася страшная ісціна — у ахвяру лжывай ідэі было прынесена ўсё сялянства, і тыя, каго рэпрэсіравалі, і тыя, што сталі на шлях самаахвярнасці.

Уражваюць незвычайна радкі з запісной кніжкі Мележа 1961—1966 гадоў (да «Палескай хронікі»):

**«Калектывізацыя ў нас прайшла спакойна. Без асаблівых выступленняў. Галоўнае, што праявілася — адвечная пакорлівасць сялян. Калі прыціснулі — пакорліва пайшлі. Верачы ў душы, што не загінуць. Усякае было раней — не прапалі. Не прападзём і цяпер, можа.**

**У адных была вера, у другіх — ілюзіі, што ўсё цудоўна і адразу пойдзе ўверх, у другіх — большасці — паслухмянасць, пакорлівасць. (Не драматызаваць дзеянне штучна).**

**Гаварылі аб уласніцкай душы селяніна, аб ідыятызме. А чаму ніхто не сказаў аб яго надзвычайнай самаахвярнасці. Чаму ніхто не сказаў, што калектывізацыя патрабавала ад селяніна надзвычайнай, непараўнальнай ні з чым самаахвярнасці. Аддаць зямлю, аддаць інвентар, усё набытае ўсім жыццём — не маючы цвёрдых гарантый за выключэннем слоў абяцанняў — колькі на гэта трэба самаахвярнасці!**

**Кланяюся вам, людзі трыццатага года!**

**Самаахвярнасць — веліч душы працоўнага народа. От пра што не гаварылі. А колькі ж яе было і якой вялікай, калі гадамі рабілі, не атрымліваючы ўзамен ні капейкі, у вайну, калі, забыўшыся на ўсе крыўды, аддавалі апошняе партызанам, рызыкавалі смяротэльна, ішлі на смерць!**

**Вялікі ты, праўда, вялікі душою народ!**

**Трэба паказаць, што многія партыйныя работнікі верылі, што будзе ўсё проста.**

**І рабілі ўсё ў імя будучага. Для будучыні — і ахвяры можна. Будучыня апраўдае».**

Радкі гэтыя гучаць як лейтматыў да ўсёй «Палескай хронікі», хаця гэтага матыву — матыву самаахвярнасці — пастараліся не заўважыць. Пра гэта і сапраўды не любілі гаварыць. Якая там самаахвярнасць! Людзей прасвятлілі, у рай за руку вядуць, а яны шчасця свайго не разумеюць. І ўсё спісвалася на ўласніцкую псіхалогію, якую цяжка было пераламаць, на спрадвечную сялянскую цемнату. Але давайце прыслухаемся да разважанняў гэтых цёмных, непісьменных у большасці палешукоў, паспрабуем зразумець іх філасофію жыцця, іх праўду. Ці такая ўжо яна, гэтая праўда, абмежаваная, асуджаная гісторыяй, як лічылася да гэтага часу? А, можа, наадварот — праўда-прадбачанне?..

Вось вяртаецца Васіль Дзятлік ад Апейкі. Ён хадзіў скардзіўся на тое, што ў яго забралі пад калгас адзіны ўрадлівы лапічак зямлі, з якім у яго былі звязаны ўсе надзеі і спадзяванні на лепшае жыццё. Вяртаецца «з той жа цвёрдасцю, што з ім абышліся несправядліва і, што яшчэ горш, справядлівасці няма ўжо адкуль чакаць. Раней была хоць якая надзея на Апейку, цяпер жа і такой, і няпэўнай, не было ні на каго».

Апейка на Васілёву просьбу памагчы вярнуць зямлю параіў яму ўступіць у калгас. «Будзе твая ўся — самая лепшая». Сказаў, парадуваў!.. Усіхняя — ето не твая... І як не чужая саўсім, а і не твая! Нічыя ето!..»

Хіба не аб гэтым апошні час крыкам крычаць і аграрнікі-публіцысты, і пісьменнікі, і дэпутаты Вярхоўнага Савета — зямля ў нас нічыя! А з гэтага ўсе нашы беды і праблемы. Усіхняя і нічыя... А таму яна і занядбаная, атручаная, сплюжаная, спаганеная. Зямля без гаспадара...

Мы сёння шмат гаворым аб выхаванні пачуцця гаспадара ў чалавека, які працуе на зямлі. Па сутнасці — працуе па найме на чужой, нічыйнай зямлі. І хочам, каб такое выхаванне дало нейкія вынікі. А пачуццё гэтае выхаваць немагчыма, яно прыходзіць само да чалавека, які, як Васіль Дзятлік, не ўяўляе свайго жыцця без зямлі. З зямлёй звязаны ўсе яго мары і спадзяванні, зямля надае яму чалавечай годнасці і незалежнасці, зямля — яго лёс. Як жа можа ён быць раўнадушным да яе? З якой замілаванасцю аглядае ён поле, на якім узышла маладая рунь!

**«Яна ўся зелянела: кволыя сцяблінкі, калі стаў перад паласой, заварушыліся, — нібы віталі яго, радаваліся яму. Ён, шастаючы лапцямі па чэзлай траве, пайшоў мяжою ўздоўж паласы, з цікаўнасцю, трывогай і радасцю ўзіраючыся ў рунь. Не, зямля гэта і цяпер не падманула: рунь была ўсюды дружная, моцная, ні аднаго зярняці, пэўна, не прапала. «Ето — расце! — свяцілася ў ім. Звыкла, з асцярожлівасцю, каб не ўракнуць, стрымаўся: — Як бог дасць снегу ды марозу і вясну добрую, дык уродзіць нешто! Будзе жыто!»**

На кнігах класікаў выхоўваецца не адно пакаленне людзей. Але на якія рысы характару Васіля Дзятліка перш за ўсё звяртае настаўніца ўвагу вучняў? Ну, вядома, на яго ўласніцкую псіхалогію, праз якую ўсе ягоныя пакуты і якая перашкаджае яму крочыць разам з іншымі ў светлую будучыню. Падкрэсліваецца не яго надзвычайная працавітасць, вернасць зямлі, любоў да зямлі, чалавечая годнасць, а ягонае ўпартае нежаданне пакорліва і слепа ісці ўслед за тымі, хто ведае адзіна верны шлях да шчасця.

Але не такім ужо верным здаецца гэты шлях не толькі Васілю Дзятліку, а і яго дзеду Дзянісу, чалавеку старому і мудраму: «Звярнуло, тым часам, з езджаной дарогі, — азваўся дзед. — Па балоту проста, па купінах...»

Гэтае апасенне «трапіць у балота» з усёй палкасцю сваёй натуры адмаўляе Міканор, перакананы, што цемната людская, а не здаровы сэнс перашкаджаюць людзям адмовіцца ад вопыту стагоддзяў і рынуцца ў нязведанае.

**«Эх, людзі! Даб'ешся хіба чаго з такімі, калі чуць, разумець не хочуць нічога! Як глухія і сляпыя! Горш за сляпых! Сляпому дай руку — пойдзе! Ды падзякуе яшчэ! І глухому — на пальцах пакажы толькі! А тут: вазьмі руку — вырве! У другі бок пойдзе! Бы ў багну завядуць яго!»**

І ў разважаннях дзеда Дзяніса і ў маналозе Міканора трапляюцца словы «балота», «багна». Першы сцвярджае: «Звярнуло, тым часам, з езджаной дарогі... Па балоту проста, па купінах...» У абураных воклічах Міканора — поўнае адмаўленне дзедавых страхаў.

Да гэтага часу мы жылі з перакананнем правільнасці выбранага шляху і спаўна падзялялі абурэнне Міканора людской цемнатой і недаверам. Не трывожылі нас і зусім ужо пагардлівыя адносіны да перажыванняў сялянскай бедната Башлыкова.

**«І зноў узяло злое: было б за што чапляцца! Быў бы не тое што рай, а было б хаця чалавечае жыццё. Былі б гаспадаркі, як мае быць. А то ж беднасць, галеча, цемра, бруд, смурод. І ўсё адно — «асмеліцца трудно!» Нібы палацамі рызыкуюць!»**

І сапраўды, ні Васіль Дзятлік, ні Цімох Чарнушка, ні Нібыта-Ігнат, ні нават Халімон Глушак, куранёўскі багацей, не нажылі сабе палацаў. Труднае, галаднаватае жыццё, беспрасветная цяжкая праца на неўрадлівым лапічку зямлі... Але гэтая зямля ў руках — рэальнасць, якая давала надзею выжыць. А абяцанкі Башлыкова не многае значылі ў вачах куранёўцаў, бо, як выказаў яму Нібыта-Ігнат: «Ты толькі ўгаворваць майстар, а сам сядзець будзеш збоку, у чыстай местачковай кватэры, у кабінеце сваім».

Дзве праўды... Адна праўда маленькага чалавека, які моцна трымаецца за свой кавалачак зямлі, за сваё права жыць на ёй так, як ён лічыць патрэбным, быць самому сабе гаспадаром, і праўда такіх, як Башлыкоў, якія наўрад ці адрознівалі «грэчку ад жыта», для якіх жыццё сялян — чужое, далёкае і незразумелае; тым не менш, яны пакідалі за сабой права вучыць землеробчай справе іншых, распараджацца іх лёсамі.

Сутыкненне гэтых дзвюх праўд аказалася трагічным для сялянства. Няўрымслівае жаданне Башлыкова і тых, хто стаяў за ім, сілком ашчаслівіць вясковы люд, разбурыўшы самі асновы сялянскага быцця, вясковы ўклад, дзе праца для людзей была перш за ўсё катэгорыяй духоўна-маральнай, складала сутнасць іх жыцця, аддзяліўшы яго ад зямлі, знішчыўшы самых працалюбівых, а другіх ператварыўшы з гаспадароў у наймітаў—усё гэта тлумачылася і апраўдвалася гістарычнай непазбежнасцю і заканамернасцю.

А праўда самога селяніна, які ў роспачы і адчаі чапляўся за зямлю — «Учапіцца нагамі ў зямлю — і не пушчаць! У міліцыю возьмуць — няхай бяруць! Усё адно — як забяруць зямлю ету—не жыць!..»,—была растаптана і знішчана.

Мележаўская «Палеская хроніка», напісаная чвэрць стагоддзя назад, — гэта кніга сённяшняга дня. Іншае асэнсаванне набылі падзеі, праўдзіва апісаныя рукой вялікага майстра. Змясціліся акцэнты, па-іншаму ўспрымаецца праўда селяніна, яго спрадвечнае імкненне да самастойнасці, недавер да ўсяго, да чаго схіляюць яго сілай.

Трывога перад заўтрашнім днём у нас не меншая сёння, чым у герояў мележаўскай эпапеі. У сваім безаглядным імкненні ўперад мы аказаліся адкінутымі на многа дзесяцігоддзяў назад. Збіўшыся аднойчы з «езджаной дарогі», мы стаміліся скакаць з купіны на купіну, мы сутаргава намацваем пад нагамі цвёрды грунт і не сароміемся больш прыслухоўвацца да парадаў таго дзеда Дзяніса, да разважанняў Васіля Дзятліка. Толькі дзе нам адшукаць іх цяпер?

**Марыя ФІЛІПОВІЧ.**

**Іван РУБІН**



●

Біўся ціха матылёк агню,
Доля спавядалася душы.
Волі, дух святы, не дай сагнуць,
Супраць веры ўпотай саграшыць.

А душа жывая і баліць,
Ці падкідыш ты, ці сірата.
З кім, скажы, агонь цяпер дзяліць!
Твой прарок такая свалата.

Воран чорны кружыць, як праклён.
Абышлося, не было крыві.
Не забілі — не далі імён,
Памяць адабралі — так жыві.

## Віна

Абмялелі вы, родныя вёскі.
Зараслі ўсе дарогі травой.
Ці хаўтуры, ці правяць дакоскі —
З вінаватай іду галавой.
З галавой пасівелай вярнуўся
Твой вясковец былы, блудны сын.
Як затраўлены звер, аглянуся —
Крапіва, бадыллё і палын.
Ні прывету табе, ні прасвету,
Быццам клінам сышоўся ўвесь свет.
Твой жыхар заблудзіўся, як ветах.
Непатрэбны, як гэты асвер.
Толькі й радасць, што можна забыцца,
Горкім зеллем ачмурыць бяду.
І нічога не здарыцца быццам,
Што душа прарасла ў лебяду.
Што аглухла, збалела няйначай,
І замоўклі навечна званы.
І ніхто па былым не заплача,
І ніхто не прызнае віны.

●

Асенняй прасторы пахілены крыж.
Плыве парадзелы гусіны канвой.
А з шэрага неба пранізлівы крык
Душу разрывае, заве за сабой.

Айчына, бывай. За табой лістапад.
Надзею ля самага сэрца трымай.
Як Бог Саваоф, абцяжараны сад.
Наўрад ён ці помніць,
Што белы быў май.

І хто я на гэтай зямлі, як не госць.
Нядобрая памяць, як злая радня.
Парог адзічэлы, забыты пагост,—
Усё гэта маё да апошняга дня.

Не плакаць на краі жыцця і зямлі.
Што можна, сказалі. Давай памаўчым.
Магчыма, не так мы з табой пражылі.
Не вельмі салодкі нам выдаўся дым.

## Сёмуха

Сёмуха мая — бяссмерце духу.
Бяроз і ліп знаёмы карагод.
І ўся зямля здаецца лёгкім пухам.
У лета выйшла, як з царквы народ.
Прад Богам і людзьмі заўсёды чыстым
Убачыцца прыбраны родны дом.
З зялёным ветрам і птушыным свістам
Здалёк кульнецца гром пустым
вядром.
Аглух званар, і ціхі звон знямелы.
Давай з табой пачнём усё з азоў,
Сёмуха мая — абрус мой белы.

●

Мой боль у рот набраў вады,
Нібы надзеў чужую маску.
Крапівы смак і лебяды
Не меў ніколі я за ласку.
Але чаму так сумна мне,
Калі пустое зелле гонар
Наноў за хлеб надзённы мкне
І папракае новым горам.
І горна робіцца за тых,
Хто ў ціне квакае, хто ў іле.
Як цяжка верыць у сляпых.
Мой ойча Бог, прыбаў мне сілы.



Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

**Алесь ПІСАРЫК**



# ЖЫЦЬМЕ, ХЛОПЦЫ!

## Геральдыка

Белы сцяг,
Чырвоная палоска,
Вершнік на ўскапычаным кані,—
Крэўнае,
Што ўнукам засталося
Ад таго,
Хто край наш бараніў.

Так было,
Так з веку павялося:
Мы чужой не прагнулі зямлі,
Малацілі ўласнае калассе,
І сваімі рэкамі плылі,

Са сваёй дзяжы пяклі кулідкі.
Край чужы не вабіў дзецюка!
Са сваёй слязы
Жанкі ў намітках
Вышывалі ўзоры васілька.

Белы сцяг.
Чырвоная палоска,
Вершнік на ўскапычаным кані...
Жыцьме, хлопцы! —
Мовіць Каліноўскі,—
Беражыце
Волі карані...

## Мітынг на плошчы Леніна

«Чарнобыль
26
красавіка
гадзіна смутку
і маўчання».
Надпіс на транспаранце.

Нас адзінае гора звяло.
Калыхнулася неба адчаем.
Мо таму чуць не хочацца слоў.
Гадзіна маўчання!

Ля цюльпанаў —
Жалобы сляза:
Ціха плачуць няўцешныя свечкі.
Слоў такіх не знайсці,

**Уладзімір СЦЯПАН**



# ЖОЎТЫ АЎТОБУС

НАВЕЛА

Аўтобус павярнуў з асветленага праспекта і адразу, як ныральшчык, які трапіў з сонечнага паветра ў тоўшчу вады, страціў хуткасць. Млява, з цяжкасцямі і асцярожнасцю аўтобус-гармонік пачаў перавальвацца і ўздрыгваць доўгім жалезным целам на выбоінах дарогі. Шрубамі закруціліся камлі таполяў, што пабеглі насустрач.

Я адвёў вочы ад запырсканага дажджом вакна і агледзеў салон. Акрамя мяне, пахістваўся ў такт штуршкам мужчына ў скураной куртцы і са стракатай сумкаю на плячы. Мужчына ўважліва сачыў за мной, і ад ягонага позірку. а хутчэй ад усмешкі, нахабнай і ўпэўненай, якая з'яўлялася і знікала на цёмным змрочным твары, мне зрабілася не па сабе, і я адвярнуўся. Позірк мой спыніўся на шкле, якое адгароджвала вадзіцеля ад пустога салона. За шклом быў каляровы плакат з выяваю культурыста. Плакат мне не спадабаўся, бо ён цалкам не стасаваўся з маім трывожным настроем, і я ўтаропіўся ў падраную і пакрамсаную спінку крэсла...

— Грошы ёсць?!— схіліўся да мяне мужчына ў скураной куртцы.

— Што?— быццам не разумеючы перапытаў я.

— Грошы маеш?... Ведаю, што ў цябе ёсць грошы. — Мужчына казаў спакойна і глядзеў мне ў пераноссе.

Яго левая рука абапіралася на спінку крэсла, а правая сціскала вертыкальную парэнчу. На дужых пальцах сінелі літары. «Гоша» — прачытаў я і спалохаўся. Адразу і падумалася: «А гэта надзейная прыкмета. Трэба запомніць».

— Што маўчыш? Калі не адказваеш, то, відаць, маеш бабкі.

— Слухай. мужык, а што такое? — я хацеў, каб пытанне прагучала смела і нахабна, але голас здрадзіў.

— Сядзі і не рыпайся! Зразумеў,— мужчына расшпіліў «маланку» сваёй сумкі і пачаў корпацца ў яе нетрах.

У мяне сапраўды былі грошы... я спознена пашкадаваў, што не дачакаўся таксоўкі, а паехаў апошнім аўтобусам нумар дваццаць пяць, па маршруце, які мне ніколі не падабаўся...

— Мне трэба трыста рублёў. Зразумеў? Трыста! Во як трэба,— мужчына рабром далоні шморгнуў па няголенай шыі з вострым коўцікам, а потым зірнуў на мой гадзіннік і нездаволена скрывіў тонкія вусны. — Ты мне дапаможаш? Так?

Ёсць людзі, якім цяжка адмовіць, ёсць і сітуацыі, з якіх няма выйсця. Я паспрабаваў нешта прыдумаць, але марна. Адзінае, што заставалася,— гэта распачаць бойку. Але супраць Гошы, і гэта было відавочна, мае шанцы былі мізэрныя, калі не сказаць, што шанцаў не было ніякіх... Заставалася даць грошы. Нават не даць, а аддаць, зароблены на афармленні кніжкі ганарар...

Мужчына працягваў корпацца ў вялікай сумцы і раз-пораз кідаў на мяне папераджальныя позіркі. Нарэшце ён спыніў пошукі.

— Ты не проста дасі грошы, а за тавар, зразумеў? Тавар добры, і ты будзеш здаволены. У цябе будзе патрэбная рэч. — Гоша агледзеў пусты аўтобус. — Яна табе хутка спатрэбіцца, будзь упэўнены.

На прыпынку ніхто не зайшоў, і аўтобус з адчыненымі пярэднімі дзвярыма паціху пакаціўся далей.

— Які тавар? У мяне ўсё ёсць. Мне нічога не трэба.

Я паспрабаваў завесці размову, каб выйграць час, бо меў кволае спадзяванне, што на наступным прыпынку з'явяцца людзі.

— Вось тавар. Ты яго возьмеш!

З сумкі з'явіўся пакунак, загорнуты ў кавалак махровага ручніка. Гоша стаў спіною да вадзіцеля і разгарнуў ручнік. На далоні правай рукі ляжаў вялікі чорны пісталет.

Я адчуў, як ад патыліцы па хрыбетніку пабег халодны і востры струменьчык, а далоні імгненна прыклеіліся да скуразамяняльніка.

— Падабаецца штука?

Я ўціснуўся ў крэсла і пракаўтнуў адказ.

— Усяго тры сотні. — Гоша шчоўкнуў засцерагальнікам і адцягнуў баёк.— Не бойся — ён не зараджаны... У дадатак два набоі. Ну, хутчэй варушыся!

Гэта цяпер я разважаю спакойна, а

Каб сказаць
Пра людскую бяду.
Вочы — сведкі!

«...Нам адно ўжо
 ісці на клады,
Ці ж адолеюць гора унукі!» —
Перамоўна ўздыхаюць дзяды,
І апальваюць
Свечкамі
Рукі...

●

З роду Белая Русь —
Мова думак маіх,
Памяць крэўная дзядзькі Івана.
Ён застаўся
Навечна ў чужыннай зямлі,
Толькі б родная —
Не гаравала;
Толькі б краю,
Што лютага ворага змог,
Не зазнаць болей гора і скрухі;
І каб любай дзяўчыне
Рамонкавы лог —
Сагравaў светлай ласкаю рукі;
І каб мова,
Якой навучыла нас маці,
Жыла і на плошчы,
І ў роднае хаце...

## Жальбіны

Абуджаецца крэўнасцю памяць:
Нашы продкі пакутліва спяць
Там,
Дзе хвоі ў жалобе прыпалі
Да сівых курганоў Курапат.

Стогне рэха.
Пужаецца птушка
Шынялёў і крывавых пятліц.
Захлынаецца слёзамі сцюжа
Над абшарам зялёных званіц.

Запаліліся свечкай жальбіны
Над пагостамі вечнай тугі.
І не сцюжы,
А душы забітых
Клічуць нас да грудкоў дарагіх.

## Пуцявіны веку

Забыліся мы на ікону,
Таму і жыццё — неўпапад!
Адным жа да самага скону
Цярусіцца з неба крупа.

Другім —
Не стае на сняданак,
Глынуць бы хоць кварту чайку.
Гарклівa і мутарна стане
Глядзець на сябе мужыку.

А трэці памоліцца Богу,
Размочыць ля студні калач
І моўчкі збярэцца ў дарогу
Пад кнігаўчын золкавы плач.

І кожны нясе сваю зорку
Над чорнай планіднай мяжой.
Сустрэнемся ўсе мы на ўзгорку
Пад ціхай журбою крыжоў,

Дзе леты усіх скукаваны,
Дзе роўныя ўсе, як адно, —
І тыя,
 каму шанцавала,
І тыя,
 каму не вязло...

●

Марнеюць ад чорнага болю
Разложыстыя дубы Палесся.
Падалося, што дрэвы нясуць
Крыжы моглічныя на плячах.
Вымірае апошняя хата.
Выміраюць асілкі лясныя.
Усё, каму дадзена жыць, —
З апошняй надзеяй выходзяць
На плошчы і бальшакі:
Жыць, жыць, жыць...
Трывога — жыць,
Жыць і сёння,
Жыць і заўтра...

А ці будзе заўтра!
А ці будзе — заўсёды!

●

ПАМЯЦІ М. С.

Ажывае зямля, і каткі на вярбе.
Зноў пралескам ад радасці цесна.
І зліваецца мой ўспамін аб табе
З веснавой, незажуранай песняй.

Паліць памяць душу.
Калісь тут,
Засяроджаны і самавіты,
Ты прыгадваў далёкі валошкавы кут,
Дзе зліваюцца з небам ракіты.

Ціха ценькне сінічка.
Усхліпне крыло.
Болем
Птахавы ўскрык адгукнецца...
Не загоіць тугу вербалозаў святло,
Не суцешыць маркотнае сэрца.

●

Святлее гай.
І клікам кліча
Вяснянку голас малады.
А нехта сцішыўся і лічыць
Сабе «зязюльчыны» гады.

Тугу душы сваёй паслухай!
З пагорка мройнага здаля —
У непрыкметных, ціхіх рухах —
Глядзіш —
Прачнулася зямля.

І чутна, як гудуць абшары:
Скідайма сум,
Скідайма чары...

---

тады рука сама палезла ў кішэнь і выцягнула пачак чырвонцаў.

— Тут толькі дзве з паловай, а яшчэ?

Гоша хутка пералічыў грошы і крыху незадаволена і разгублена паглядзеў мне ў вочы. У яго на твары з'явілася амаль вар'яцкая ўсмешка.

— Гэта ўсё... — сказаў я.

— Усё?— Перапытаў ён і загарнуў чорны пісталет. — Мала... — разважліва сказаў і паклаў скрутак на крэсла. — Мала, мала... — паўтарыў, а потым выцягнуў з кішэні і кінуў на сядзенне адзін набой.

Я сядзеў нерухома, баючыся скрануцца, а Гоша спакойна зашпіліў сумку, падняў каўнер курткі і падаўся, пахіставаючыся ў такт штуршкам, да пярэдніх дзвярэй. Ён нешта сказаў вадзіцелю, паляпаў далонню па шкле і аўтобус рэзка спыніўся. Прыпынак быў кароткі. Мужчына ў чорнай куртцы з сумкай на плячы застаўся на дарозе, а аўтобус здрыгануўся і рушыў у цемру.

Я зірнуў у вакно. Гоша хутка ішоў па сярэдзіне дарогі ў бок горада, які зіхацеў на даляглядзе рассыпанымі драбкамі агеньчыкаў.

Прыгода... Лічы пашанцавала... Я разгарнуў ручнік і асцярожна паклаў далонь на рукаятку. Пальцы сціснуліся, і я ўзважыў зброю, не дакранаючыся да курка, а потым хутка згарнуў пакунак і схаваў пад куртку.

Яшчэ мінут дзесяць аўтобус цягнуўся па мокрай дарозе, а я калаціўся, адчуваючы за пазухай цяжкаваты пакунак. Я нават затрымліваў дыханне, каб не патрывожыць пісталет, каб не кінуцца да дзвярэй. Я паспрабаваў засяродзіцца, але сэрца тахкала, а рукі дрыжалі...

Я выскачыў на сваім прыпынку і падаўся ў процілеглы бок ад інтэрната. Я ішоў і паўтараў чатыры лічбы нумара «Ікаруса», каб яны ўрэзаліся ў памяць, і трымаўся, як хворы, за тое месца, дзе пад курткай ляжаў пісталет...

Калі аўтобус знік з вачэй, я развярнуўся і пашыбаваў да інтэрната. Жонка спала. Я зайшоў у ванны пакой, пусціў ваду і выцягнуў пакунак. Гэта быў «ТТ» — груваскі, цяжкі з глыбокімі драпінамі на корпусе. Я палічыў драпіны — іх было шэсць. У набоі было сем патронаў, кароткіх і тоўстых, як жалуды. Аднаго патрона не хапала, і я спалохаўся... Са скрыні, дзе ляжыць брудная бялізна, я выцягнуў спартыўную майку і ў яе загарнуў пісталет, а потым схаваў яго пад ванну, за стракаты шыхт пачкаў з парашком. Пачкі стаялі акуратна, і я некалькі разоў перастаўляў іх, каб схованка была незаўважнай.

Я лёг не павячэраўшы — доўга не мог заснуць. Здавалася, што як толькі я засну,— у дзверы пагрукаюць...

Што снілася ў тую ноч і ці снілася што — не памятаю. З раніцы, калі жонка і суседзі па блоку сышлі на працу, я замкнуўся і выцягнуў пісталет. Учарашні жывёльны, гідкі жах знік. Я разгарнуў пакунак і ўзяў пісталет... З паўгадзіны я хадзіў па пакойчыку і выхопліваў «ТТ» то з кішэні, то з-пад рэменя і адчуваў сябе суперменам. Мне падабалася маё адлюстраванне ў шкле кніжнае шафы, ў маленькім круглым люстэрку. Я прыкладаў, а хутчэй прыстаўляў халодны ствол да скроні і націскаў на курок... Адказам быў сухі шчаўчок, і я валіўся на непрыбраную канапу. Але забавы хутка надакучылі і стамілі, радасць згасла, бо прыйшла думка — тая, учарашняя.

«А што, калі за гэтым «ТТ» ланцуг злачынстваў, а нават калі і не ланцуг, а толькі адно забойства, і пісталет шукаюць?» Зноў я агледзеў свой набытак і нават панюхаў яго. Пісталет пах змазкай, і гэта супакоіла. Але аднаго бліскучага патрона ў набоі не хапала. А што, калі тая куля некага забіла?.. Варыянты пракручваліся розныя, ад жахлівых да камічных, але камічныя не весялілі і не прыносілі супакаення...

Я разумеў, што ад пісталета трэба пазбавіцца, але не ведаў як, дзе і калі... А яшчэ мне было шкада грошай, бо афармленне кніжкі давялося некалькі разоў перарабляць і я «ўбухаў» на тую працу амаль месяц.

— Можа, выкінуць у смеццеправод... Але гэта выкінуць месяц працы... А калі хто знойдзе і скарыстае. А калі пакінуць сабе? Як мяне можна знайсці? А навошта мне пісталет?..

Я стаміўся ад разваг і вырашыў параіцца з сябрам, але некалькі дзён мы не маглі сустрэцца — мой сябра быў у камандзіроўцы...

Тое, што я маю пісталет, змяніла мае паводзіны. Я смела хадзіў па сваім мікрараёне, нахабна лез у чэргі... А тыя, што раней прасілі ў мяне цыгарэты ці «зшыбалі» дробязь на піва, абходзілі мяне і расступаліся каля дзвярэй віннае крамы...

Адчуванне перавагі нагадвала войска. Там, калі я шыбаваў на варту з аўтаматам на плячы, мяне не чапалі самыя адчайныя «дзяды» і самыя «прыдурачныя» ці, як казалі «мутныя» прапаршчыкі ды афіцэры. Але там усе бачылі зброю, а тут... Мой «ТТ» ляжаў пад ваннай, загорнуты ў спартыўную майку. Пісталет сам па сабе, а набой сам па сабе, у кніжнай шафе, за цаглінамі-тамамі слоўнікаў...

Нават мой галоўны рэдактар, які звычайна любіў вышукваць памаркі і чапляцца да розных дробязяў, пачаў размаўляць са мною лагодным голасам і з павагаю...

Колькі я ні дзівіўся на свой твар і паставу ў люстэрку — зменаў не знаходзіў...

Па начах бачыліся дзіўныя сны. Я страляў ва ўсіх, хто зрабіў мне нешта кепскае, пакрыўдзіў позіркам ці словам, страляў у тых, хто не згаджаўся са мной. Я прахопліваўся сярод ночы ад таго, што скончыліся патроны і мой чорны «ТТ» суха шчоўкае, калі я націскаю курок...

Нешта трэба было рабіць, бо я пачынаў паціху вар'яцець ад адчування ўласнай моцы і перавагі над усімі...

У кожнага ёсць такія сябры, якія ведаюць пра цябе амаль усё, якім можна давяраць. Я прыехаў ў рэдакцыю да Глобуса і мы, па старой завядзёнцы, пайшлі піць каву. Па дарозе я прапанаваў яму сюжэт новага апавядання, і пакуль мы ішлі, стаялі ў чарзе, а потым пілі каву, я пераказаў сваю прыгоду.

На твары майго сябра здзіўленне змянялася напружанасцю, напружанасць разгубленасцю, разгубленасць недаверам, а недавер ізноў спалоханасцю.

— Я толькі разабраўся са сваімі праблемамі, а тут ты! Ну і гісторыя... Улез, а як разблытацца?.. А што будзеш рабіць?— апошняе пытанне завісла.

Мы выйшлі з гастранома «пад шпілем» і пайшлі ў напрамку плошчы Якуба Коласа.

— Галоўнае — Мірыку не расказвай (Мірык — гэта малодшы брат Глобуса, друкуецца пад псеўданімам Міраслаў Шайбак), а то ён адразу прасіць пачне. а яму зброю ў рукі лепш не даваць,— спалохана і разгублена спрабаваў разважаць Глобус.

— Я расказаў толькі табе.

— А жонка ведае?

— Навошта ёй гэта ведаць?

— Правільна! Чым менш ведае людзей, тым лепш... А табе самому не страшна? — спытаў Глобус.

— Спачатку спалохаўся, а цяпер супакоіўся і пачаў думаць.

— Трэба нешта рабіць. а вось што, што? А пісталет спраўны, працуе?..

— Не правяраў пакуль.

Мы ішлі і палілі. Насустрач рухаліся людзі. Было горача. Натоўп нас абмінаў, а Глобус напружана думаў і глядзеў у асфальт.

— А калі занесці ў міліцыю і здаць? — разважаў ён. — Я, на месцы міліцыянера, у гэтую гісторыю, канешне не наверыў бы... А колькі можна атрымаць за пісталет, калі зловяць?

— Думаю, гады чатыры... Але міліцыя не будзе ў мяне яго набываць... — сказаў я. — А грошы?

Глобус спыніўся і пачаў смяяцца.

— Я прыдумаў,— сказаў ён. — Пісталет пад ваннай, за пачкамі з парашком? Можна здаць цябе і на чатыры гады пазбавіцца ад...

— Я скажу, што ты папрасіў на час пераезду схаваць. Новая кватэра, людзі... Вось ты і папрасіў...—Не смешна жартуеш. Глобус...

— Трэба параіцца з Якубовічам. Ён дапаможа, але гэта таксама небяспечна... — на твары майго сябра было расчараванне. — Ведаеш што? А давай яго загонім за пяцьсот рублёў, і я ведаю каму — драматургу Дудараву... Яму пісталет патрэбны во як! — Глобус рабром далоні правёў па шыі і спыніўся.— Будзе чым бараніцца ад рэкеціраў...

— У яго, мабыць, ёсць. Можа, й аўтамат,— сказаў я, і мы пачалі смяяцца.

Вакол ішлі людзі і са здзіўленнем азіраліся на нас. А мы заходзіліся ад нервовага смеху на люднай вуліцы, асветленай гарачымі промнямі летняга сонца.

— А яшчэ можна прапанаваць яго, як і табе,— у аўтобусе... Мне здаецца, што наўрад ці хто зможа адмовіцца і не набыць! Гэта ход... Толькі трэба натрапіць на чалавека з грашыма... Уяўляеш, які пачнецца гандаль у аўтобусе нумар дванццаць пяць! Пісталет прадасі, а ён праз дзень ізноў можа трапіць да цябе... Цікава будзе жыць. Шкада, што ў тваёй жонкі няма каханка. Можна было б напалохаць...

— Хочаш дам на пару дзён табе? — прапанаваў я.

— Не, не — я і карыстацца ім не ўмею,— спалохана загаварыў мой сябар.

— Гэта ўсё жарцікі ад нейкай безвыходнасці... Лепш давай загонім Някляеву. Прыйдзем да яго ў кабінет і спытаем: «Скажыце, Уладзімір Пракопавіч, вы сапраўдны паэт?» Ён скажа, што паэт. Тады мы скажам, што ўсе сапраўдныя паэты канчаюць жыццё самагубствам або ў двубоі, і прапануем яму пісталет... Уяўляеш твар Пракопавіча?

— Уяўляю...

— А калі па шчырасці, то трэба мастацкае выйсце знайсці.

Мы апынуліся на плошчы Якуба Коласа і селі на парэнчы ля трамвайнага прыпынку. Вакол тоўпіліся і мітусіліся людзі.

— Гэта грамадзянская вайна,— раптам сумна сказаў Глобус.

— Думаеш?

— Пра гэта страшна думаць... А не думаць не атрымліваецца.

Мой сябар глядзеў па ўзверх натоўпу і спрабаваў запаліць цыгарэту. Запалка зламалася, потым зламалася наступная...

— Можа, не думаць?..

Я запаліў цыгарэту і паднёс агеньчык Глобусу.

— Паехалі да мяне... Павячэраем. Я каву згатую. У мяне пляшка віна ёсць... Паехалі, — прапанаваў Глобус і саскочыў з парэнчы.

На гадзінніку была палова на дзесятую. Ехаць да сябра не хацелася, і мы развіталіся. Я перабег вуліцу і падаўся па праспекце ў бок Уручча. Было задушліва, збіралася навальніца. У галаве круціліся недарэчныя думкі, а на душы было пагана-пагана.

Я не паехаў да сябра і не спяшаўся дахаты, бо ў горадзе, на шматлюдных вуліцах адчуваў сябе спакайней, чым у прасторы, абмежаванай сценамі...

Калі пачаўся дождж, я ўскочыў у аўтобус, што йшоў ва Уручча. Людзей было шмат, і я стаяў на задняй пляцоўцы, прыціснуты да шкла. П'яная кампанія спявала песні, ім падыгрываў акардэон, яны абмяркоўвалі вяселле, з якога вярталіся, У аўтобусе было шумліва і цесна, я глядзеў на мокрыя машыны, на парасоны і прыслухоўваўся да п'янай гаманы.

— Прывітанне! — пачуў я знаёмы голас і павярнуўся. — Ну як ты? Поруч са мною стаяў Гоша. На ім была чорная скураная куртка, на плячы спартыўная сумка.

— Вось твае грошы... Я хачу забраць тое, што прадаў табе,— ён трымаў татуіраванымі пальцамі пачак чырвонцаў. — З пераплатай вазьму.

Я глядзеў на яго са здзіўленнем, быццам першы раз бачыў.

Здзіўленне атрымалася натуральным.

— Ты што, мяне не пазнаеш?

— Вы памыліліся! Бывае...

Разам з вясельным натоўпам я выйшаў з аўтобуса. «Ікарус» быў той самы. Тыя ж чатыры лічбы, толькі запырсканыя граззю, а вось нумар маршрута быў іншы.

**Збіраючы матэрыялы пра жыццё і творчасць Цёткі, я цікавілася людзьмі, з якімі была знаёма паэтэса, якія маглі дадаць сваімі ўспамінамі ці дакументамі новыя рысы да яе біяграфіі. Адным з такіх людзей быў у свой час Аляксандр Мікітавіч Уласаў — рэдактар «Нашай Нівы», «Сахі», «Лучынкі».**

**Недзе ў сямідзесятых гадах напісала я ліст яго пляменніцы В. Ніжанкоўскай з просьбаю расказаць, калі што памятае, пра свайго дзядзьку. І атрымала ад яе цэлы сшытачак — успаміны пра А. Уласава.**

**На той час у сваёй кніжцы я мала што змагла выкарыстаць з тых успамінаў, але, думаю, сёння яны могуць уявіць цікавасць для чытачоў.**

**Лідзія АРАБЕЙ.**

**В. НІЖАНКОЎСКАЯ**

# ПРА ДЗЯДЗЬКУ

Аляксандр Мікітавіч Уласаў нарадзіўся ў 1874 годзе ў вялікай сям'і Вілейскага начальніка пошты. У дзяцінстве ён і ўсе дзеці Уласава часта гасцілі ў свайго дзеда Адама Канчэўскага, які быў свяшчэннікам у Рэчках каля Вілейкі. Дзед Канчэўскі паміж іншым вёў цікава сваю гаспадарку. Ад сваіх прыхаджан ён браў грошы толькі за вяселлі, але на пасяўную і ўборку ўраджаю ён збіраў талаку. Праца ішла дружна і весела, і добра пад'еўшы і падпіўшы, усе былі задаволены.

З Вілейкі бацьку Аляксандра Мікітавіча перавялі ў Вільню на пасаду начальніка пошты. Купіў ён у гэты час і фальварак Мігаўку каля Радашковіч, куды на лета выязджала ўся сям'я. Пасля крадзяжы ў складах пошты, за недагляд, Уласава і яго начальніка пераводзяць у правінцыю. Уласава перавялі ў Пінск, дзе ён досыць хутка памірае. Аляксандр Мікітаў тады вучыўся ў Пінскім духоўным вучылішчы, але па смерці бацькі яго матка з дзецьмі пераехала ў Мінск, дзе Аляксандр Мікітаў паступіў у рэальнае вучылішча.

Бабцы жылося пасля смерці мужа цяжка, пенсія была малая, жыць яна не ўмела, а дзяцей было ў той час сямёра. Двое сыноў яна аддала ў сіроцкі інстытут каля Пецярбурга, гэта нешта накшталт нашай школы-інтэрната, а Саша застаўся ў Мінску канчаць рэальнае вучылішча, а закончыўшы яго, паступіў у Рыжскі палітэхнікум.

У той час студэнты маглі здаваць экзамены калі хто хацеў, вучобу можна было зацягнуць на доўгія гады, былі, як іх звалі, «вечныя студэнты». Дзядзька таксама з навукамі не спяшаўся, тым болей, што ён захапіўся рэвалюцыйным рухам. Спачатку сярод рабочых у Рызе, а пасля 1905 года ў Беларускай рэвалюцыйнай Грамадзе. Пад час перадвыбарчай кампаніі ў «Государственную Думу» дзядзька распаўсюджваў лістоўкі супраць угодных дзяржаве кандыдатаў, выступіў з вострай прамовай у радашковіцкай чайнай. Яго меліся арыштаваць, але, папярэджаны, ён своечасова выехаў да знаёмых у ваколіцы Мінска.

У 1906 годзе разам з братамі Луцкевічамі арганізаваў месячнік «Наша Ніва», адначасова стаў яго рэдактарам.

Наогул дзядзька меў талент арганізатара і з гумарам мог зацікавіць і захапіць сваімі думкамі і планамі. Матэрыяльныя справы яго не спынялі, ён мог абмяжоўваць патрэбы да мінімуму. А наогул меў незвычайны апетыт, якім славіўся.

Асабіста ў дзядзькі амаль ніколі грошай не было, а даўгоў шмат. Пасля смерці маткі ён перавёў фальварак Мігаўку на сябе, а чатыром братам сплачваў за іх часткі. Ён часта наязджаў у Мігаўку, свае 60 гектараў аддаваў у арэнду і гэтым сплачваў даўгі.

Дзядзька збіраў цікавых людзей, каб выкарыстаць іх для «Нашай Нівы». У той час ён прывёз да нас у Калізберг (маёнтак каля Радашковіч) кампазітара Рагоўскага, які ў нас іграў сваю музыку, у тым ліку і «А хто там ідзе?».

Шмат разоў «Нашу Ніву» канфіскоўвалі, а за адзін нумар дзядзька адседзеў некалькі месяцаў у Бабруйскай крэпасці.

Хоць мой бацька і лічыў сябе беларусам рускай культуры і цікавіўся беларускім фальклорам, але ад дзяцінства, галоўным чынам ад дзядзькі, мы чулі аб Беларусі і беларусах.

Мы, дзецьмі, вельмі цешыліся, калі з'яўлялася да нас яго атлетычная, прыгожая фігура і ўжо здалёк чуўся яго магутны бас і рогат.

У 1912 годзе дзядзька перадаў рэдакцыю «Нашай Нівы» Янку Купалу, а сам перабраўся ў Мінск, каб арганізаваць новы часопіс — «Саха». У сваіх, на жаль, кароценькіх успамінах дзядзька пісаў, што для таго, каб арганізаваць рэдакцыю, трэба — пакойчык, некалькі скрынак замест крэслаў і сталоў, прымус, чайнік і пабольш энтузіязму. Спачатку рэдакцыя была на Шырокай вуліцы, а пасля на Захар'еўскай у доме Кацялкоўскага, супраць цяперашняга Дома ўрада. У 1968 годзе гэты дом знеслі. Там жа была рэдакцыя «Лучынкі». У гэтым памяшканні ў пэўныя дні збіралася моладзь, рабочыя, інтэлігенцыя, якая пела, дэкламавала, танцавала, арганізоўваліся тэатральныя гурткі.

На сельскагаспадарчай выстаўцы ў Мінску дзядзька арганізаваў беларускі павільён, за які атрымаў срэбны медаль.

У 1913 годзе ў Радашковічах мой бацька з дзядзькам арганізавалі сельгасвыстаўку. Плакаты былі намаляваны мастаком Сукоўскім, мы з сяброўкай былі ў беларускіх касцюмах. За найлепшую скаціну, збожжа і гародніну даваліся ўзнагароды.

А вечарам ставілася «Паўлінка», якую ігралі прыехаўшыя з Мінска аматары. На гэты спектакль былі запрошаны і сваякі Купалы — прататыпы Крыніцкага і Пустарэвіча. Баючыся, што яны, пазнаўшы сябе, абразяцца, дзядзька іх гэтак падпаіў, што яны праспалі ўвесь спектакль, але засталіся задаволеныя прыёмам і ўвагай да іх.

Пачалася вайна 1914 года. Дзядзьку мабілізавалі, наша сям'я эвакуіравалася на Украіну, і мы з ім спаткаліся толькі ў 1922 годзе. Пакуль мая матка не пабудавалася, мы з ёй пэўны час жылі ў дзядзькі ў Мігаўцы.

Аляксандр Мікітавіч быў зноў поўны энтузіязму. Ён арганізаваў у Радашковічах Таварыства беларускай школы, а таксама ў 1922 годзе пачынае клопаты аб адкрыцці ў Радашковічах Беларускай гімназіі. Польскія ўлады яго саслалі ў канцлагер «Стшалкова», але праз пару месяцаў выпусцілі, і ён усё ж дабіўся свайго, яму далі канцэсію на адкрыццё гімназіі. Дзядзька ў захапленні бярэцца за арганізацыю гімназіі. Пошукі памяшкання, настаўніцкіх кадраў, набор вучняў. Гімназія існавала ад 1922 да 1929 года. 860 вучняў прайшлі праз яе сцены, 120 вучняў атрымалі сярэднюю асвету і большасць з іх закончыла ВНУ ў Чэхіі і Францыі.

Дзядзька сам жыў у Мігаўцы (гэта 2,5 км ад Радашковіч), куды часта прыязджалі беларусы з усіх старонак. Там жа я пазнаёмілася з маім першым мужам Тарашкевічам. У Мігаўцы быў невялікі

**НА СКРЫЖАВАННІ ДУМАК**

# МЯЖА

Апошнім часам у друку ўсё часцей з'яўляюцца публікацыі, у якіх закранаюцца пытанні аб межах Беларусі і Літвы, а таксама этнічнай тэрыторыі беларускага народа. Можна назваць, у прыватнасці, артыкулы ў газеце «Советская Белоруссия» А. Залескага («К разговору об этнографической Белоруссии» за 24 августа 1990 г.), І. Юхо («Литва-Белоруссия»: к вопросу о территориях»), артыкулы В. Сіўчыка і многія іншыя. Кожны з аўтараў глыбока перакананы, што тэрытарыяльныя прэтэнзіі таго ці іншага боку дастаткова абгрунтаваныя і што зусім правамерна, напрыклад, патрабаваць ад Літвы вяртання тых тэрыторый, якія былі перададзены ёй у выніку цэлага шэрагу заканадаўчых актаў. Але, як бачна з узгаданых артыкулаў, аўтары іх мала знаёмы з так званай этнічнай статыстыкай. Знаёмства з адной-дзвюма кнігамі па этнічных праблемах яшчэ не дае падстаў лічыць сябе спецыялістам у нацыянальнай справе. І калі ўжо гаворка заходзіць пра тэрыторыі, то займацца гэтым пытаннем павінна навука — этнічная геаграфія, пра якую, на жаль, мала хто, акрамя спецыялістаў, ведае.

Асноўнай прыкметай, паводле якой гэтая навуковая дысцыпліна разглядае насельніцтва, з'яўляецца нацыянальная прыналежнасць. Паўстае пытанне: а што лічыць нацыянальнай прыналежнасцю? Дык вось, яшчэ ў 1872 годзе на Сусветным статыстычным кангрэсе ў Пецярбурзе было прынята рашэнне вызначаць нацыянальнасць чалавека на падставе яго самавызначэння. Калі, напрыклад, беларус, які жыве ў Літве, называе сябе палякам, то, значыць, мы павінны лічыць яго палякам. А не беларусам, нават калі ўсе папярэднія пакаленні яго продкаў лічылі сябе беларусамі. Правільнасць такога падыходу пацвярджаецца ўсімі спецыялістамі: нацыянальнасць павінна вызначацца не «па крыві», г. зн. не па паходжанні, а па самавызначэнні.

Як бы вучоныя ні трактавалі пытанне аб беларуска-літоўскім памежжы, якія б крайнія патрабаванні ні ставілі грамадскія рухі, пытанне павінна вырашацца бесканфліктна, мірным шляхам, без узаемных абвінавачванняў і абраз. Не прэтэндую на ролю трацейскага суддзі, а пастараюся з фактамі ў руках яшчэ раз зірнуць на сітуацыю, што склалася тут на сённяшні дзень.

12 ліпеня 1920 года быў заключаны дагавор паміж Савецкай Расіяй і Літвой, паводле якога Вільня з прылеглымі тэрыторыямі лічылася прыналежнасцю Літвы. Але літаральна адразу ж пасля гэтага Вільня і Віленская вобласць былі акупіраваны Польшчай, і іх тэрыторыя заставалася ў складзе Польскай дзяржавы да 1939 года. Пасля падзелу Польшчы паміж гітлераўскім і сталінскім урадам і далучэння да СССР Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі 10 кастрычніка 1939 года паміж Літвой і СССР быў заключаны дагавор аб узаемадапамозе. Паводле дагавора Літве перадаваліся Вільня і Віленская вобласць. У той жа час частка былой польскай тэрыторыі была аднесена да Беларусі (Рымшанская, Радунская і Даўгелішская воласці і раён Свянцян). Потым адбылося далучэнне Літвы да СССР. На VII надзвычайнай сесіі Вярхоўнага Савета СССР 3 — 6 жніўня 1940 года было ў заканадаўчым парадку зафіксавана ўваходжанне Літвы ў СССР. Дзеля таго, каб апярэдзіць абвінавачванні ў анексіі, Сталін прымае рашэнне перадаць Літве частку тэрыторыі БССР з пераважнай большасцю літоўскага насельніцтва. Перадачы падлягалі Свянцянскі раён цалкам, а таксама часткі Відзаўскага, Гадуцішкаўскага, Астравецкага, Воранаўскага і Радунскага раёнаў. Пасля прыняцця гэтых заканадаўчых актаў прадстаўнікі Літвы і Беларусі 1 — 2 кастрычніка 1940 года сустрэліся і правялі перагаворы ў Гродне. На гэтых перагаворах паміж літоўскай і беларускай дэлегацыямі ўзніклі некаторыя рознагалоссі. Літоўскі бок прапаноўваў замест тэрыторыі Астравецкага раёна, дзе практычна не жылі літоўцы, перадаць Літве частку Парэцкага раёна Беластоцкай вобласці, дзе такое насельніцтва было. Было разгледжана некалькі варыянтаў мяжы. Нарэшце, 6 лістапада 1940 года быў прыняты Указ аб зменах межаў паміж БССР і Літоўскай ССР. А 25 лістапада таго ж года пасля канчатковага ўдакладнення быў прыняты «Указ аб зменах межаў асобных раёнаў Віленскай і Беластоцкай абласцей у сувязі з удакладненнем межаў паміж Літоўскай ССР і Беларускай ССР». Згодна з гэтым указам Літве перадаваліся Свянцянскі і Гадуцішкаўскі раёны з Віленскай вобласці і Парэцкі з Беластоцкай.

Можна смела сцвярджаць, што рашэнне Сталіна аб перадачы Літве раёнаў і тэрыторый, якія ўвайшлі ў 1939 годзе ў склад Беларусі, было досыць нечаканым для самой Беларусі. Аб гэтым сведчаць многія відавочцы тых падзей, прычым і даволі кампетэнтныя (гл., напрыклад, публікацыі ў «Звяздзе» за 8.04.90 г. і «ЛіМе» за 13.04.90 г. і інш.). Не было для гэтай перадачы і аб'ектыўных падстаў. Паводле афіцыйнай версіі, у гэтых раёнах пераважала літоўскае насельніцтва. Але гэта было толькі прыкрыццём палітычных гульняў Сталіна. Нацыянальны склад тады вызначаўся досыць прыблізна, ніякіх сур'ёзных навуковых даследаванняў не было праведзена.

Такім чынам можна сцвярджаць, што тэрытарыяльнае пытанне паміж Літвой і Беларуссю распадаецца на дзве часткі: першая — каму належыць Вільня і Віленская вобласць; другая — прыналежнасць Свянцянскага, а таксама часткі Відзаўскага, Гадуцішкаўскага, Астравецкага, Воранаўскага і Радунскага раёнаў.

Асноўным аргументам тых, хто лічыць, што Вільня і Віленскі край павінны належаць Беларусі, з'яўляецца той факт, што ў матэрыялах перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 года гэтыя тэрыторыі былі пераважна заселены беларускім насельніцтвам. Звернемся непасрэдна да матэрыялу перапісу. У Віленскім павеце (разам з Вільняй) усё насельніцтва на момант перапісу складала 363,3 тысячы чалавек, у тым ліку беларусаў — 87,4 тысячы або 24,1 працэнта (непасрэдна ў Вільні насельніцтва складала 154,5 тысячы чалавек, у тым ліку беларусаў — 6,5 тысячы або 4,2 працэнта). У Свянцянскім павеце ўсё насельніцтва складала 172,2 тысячы (беларусаў — 81,8 тысячы або 47,5 працэнта). У Трокскім павеце — адпаведна — усё насельніцтва складала 203,4 тысячы, у тым ліку беларусаў — 32 тысячы або 15,7 працэнта. Такім чынам, на ўсёй або амаль усёй тэрыторыі Віленскай губерні, якая не ўваходзіць у тэрыторыю сучаснай Беларусі, пражывала па дадзеных перапісу 1897 года 738,9 тысячы чалавек, сярод іх беларусаў — 207,8 тысячы або 28,1 працэнта. Да таго моманту, калі гэта тэрыторыя стала аспрэчвацца паміж Літвой і Беларуссю, колькасць беларусаў там яшчэ больш скарацілася (у выніку войнаў, бежанства, палітыкі польскіх улад і г. д.).

Што датычыць другой часткі тэрытарыяльнага пытання паміж Літвой і БССР, то, на жаль, дакладных дадзеных нацыянальнага складу на той гістарычны момант насельніцтва пералічаных вышэй раёнаў проста не існуе. У перыяд перадачы гэтых раёнаў Літве па ўказанні Масквы мясцовымі ўладамі была праведзена ацэнка колькасці насельніцтва і яго нацыянальнага складу. Гэтыя дадзеныя цудам захаваліся да гэтага часу ў маскоўскіх архівах. Мне пашанцавала атрымаць гэтыя матэрыялы.

На падставе дадзеных Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай Рэвалюцыі СССР (г. Масква) у Гадуцішкаўскім раёне на момант яго перадачы Літве, г. зн. у 1940 годзе налічвалася 12,8 тысячы беларусаў, а літоўцаў — 15,8 тысячы, іншых нацыянальнасцей — 6,3 тысячы; у Свянцянскім раёне — беларусаў было 6,8 тысячы, літоўцаў — 17,1, іншых — 10,9 тысячы; у Парэцкім раёне — беларусаў 4,8, літоўцаў — 8,5, палякаў — 9,1, іншых — 1,5 тысячы чалавек. Прычым, трэба заўважыць, у пералічаных раёнах, акрамя Парэцкага, палякі не адзначаны. І ва ўсіх гэтых раёнах практычна не было рускіх. Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што гэта дадзеныя мясцовых уладаў таго часу. Такім чынам, сцвярджаць, што Літве былі перададзены раёны, заселеныя беларусамі, — гэта значыць, супярэчыць ісціне, хоць пэўная, даволі значная частка беларускага насельніцтва на перададзеных тэрыторыях пражывала.

Але размежаванне тэрыторыі паміж Літвой і Беларуссю адбывалася ўсё-такі з улікам і этнічнага фактару. У якасці пацвярджэння гэтага можна прывесці адзін цікавы дакумент, які захоўваецца таксама ў ЦДАКР СССР. Гэта адзін з першых варыянтаў размежавання паміж Беларуссю і Літвой. Паводле яго меркавалася, што да Літвы адыдуць тэрыторыі Відзаўскага, Гадуцішкаўскага, Свянцянскага, Свірскага, Воранаўскага, Радунскага і Парэцкага раёнаў. Але самае цікавае — гэта этнічны склад насельніцтва, што адыходзіла да Літвы. Па гэтым варыянце да Літвы павінна была перайсці тэрыторыя з насельніцтвам 76,3 тысячы чалавек, у тым ліку літоўцаў — 50,4, беларусаў — 8,6, палякаў

дом з зашклёным ганкам, там, пакуль было цёпла, дзядзька праводзіў дні. На стале на прымусе кіпеў чайнік, побач ляжаў баханак хлеба, кавалак вэнджанай шынкі і мелася стопка кніг. Дзядзька босы, у саматканым касцюме чытаў кнігі, папіваючы гарбату, тут жа прымаў гасцей. А як рабілася цёмна, то ён з гасцямі пераходзіў у свой «салон». Гэта быў вялікі пакой, у куце камін, уздоўж сцяны даўжэзная пяціметровая канапа і паліцы з кнігамі. Запальвалі камін і госці сядалі хто на канапу, а моладзь на падлогу перад агнём і найчасцей слухалі дзядзькавы анекдоты і ўспаміны. А калі збіраліся госці на вячэру, то дзядзька хадзіў каля стала і прыказваў: «А Божа ж мой, не ешце столькі, вы ж мяне руйнуеце». І, здаецца, нідзе так з апетытам і весела не елася гасцям. А Саша сам любіў і жарты, і моладзь, якая яго вельмі любіла і за жарты і за кнігі, якімі ў яго карысталіся, і за любоў да іх.

Вечарамі збіраліся суседзі з вёсак, якім ён рабіў «палітінфармацыю», чытаў ім газеты.

Паміж іншым, ад 1923 года дзядзька па спіску меншасцяў быў выбраны ў польскі Сенат, дзе быў у беларускім клубе. Будучы сенатарам, ён часта бараніў пакрыўджаных, якія да яго звярталіся.

У 1925 г. дзядзька жэніцца. Жонка ўзялася за гаспадарку, бо грошай дзядзька не меў, а арэнда, якую ён даставаў, была малая, і пакуль дзядзька быў халасцяком, усе рабілі, што хто хацеў. Але памалу робіцца парадак, замяняючы багему Мігаўкі.

Аляксандра Паўлаўна, жонка Сашы, памагала арганізоўваць спектаклі, зборы на танцы, ёлку, нават выбіралі найпрыгажэйшую дзяўчыну.

Калі разграмілі «Грамаду», то дзядзьку выклікалі ў Вільню, каб наладзіць працу Таварыства беларускай школы ў Вільні, бо шмат дзеячаў было арыштавана. Ён ездзіў з Р. Шырмам на з'езды ТБШ. Ён не быў ні камуністам, ні грамадаўцам, але ўсе яму давяралі і лічылі яго сваім пэўным чалавекам. Але ў 1929 годзе польскія ўлады зачынілі Радашковіцкую гімназію, як рассаднік камунізму, і дзядзька траціць гумар, гасне. Ён усё збіраўся пісаць успаміны, але не сабраўся. Толькі 17 верасня 1939 года, калі прыйшла да нас савецкая ўлада, дзядзька прыйшоў да нас поўны надзеі, што ён будзе пісаць і друкавацца як эканаміст. Ён сам паехаў у Маладзечна, каб запрапанаваць свае паслугі ў рэдакцыю газеты, адтуль яго паслалі ў МВД на зацвярджэнне як супрацоўніка. У МВД яму загадалі напісаць біяграфію, а гэту біяграфію, 17 старонак, прылажылі да акта абвінавачання і яго ўжо дамоў не пусцілі, на судзе яму далі пяць гадоў і выслалі недзе на ўсход, дзе па дарозе ён памірае.

Калі жонка ездзіла ў Маладзечна, возячы яму падаянкі, і пыталася ў ахоўніка, ці здаровы яе муж, то ёй казалі: «Такі вялікі, вусаты, дык ад яго расказаў рагоча ўся камера».

А жонцы і двум сынам спачатку пакінулі 5 га зямлі і карову, а з дому выправілі, а пасля суда яе вывезлі з сынамі ў Паўлаградскую вобласць, дзе яна спачатку мусіла пілаваць лес, а пасля жыць там і працаваць. Толькі праз колькі год яна вярнулася ў Гомель. Яна дабілася рэабілітацыі мужа, а сабе пенсіі.

На юбілеі аднаго беларуса ў 1939 годзе дзядзька напісаў: «...я належу ўжо да старэйшага пакалення і барабаню пра Беларусь гадоў пяцьдзесят. Усе нашы павадыры на беларускай справе карысці сабе не зрабілі, жыццё іх горкае і мучаніцкае і ідуць яны не па кветках, а па калючках...»

А вось ліст, які ён напісаў ў Маладзечне 25.9.1939 года, перад самым арыштам:

**«Грамадзяніну Пятро Шлойда.**

**По конституции т. Сталина, Советы состоят из рабочих, крестьян и интеллигенции, которая служит рабочим и крестьянам. Я по совести могу сказать, что я такой интеллигент, перечислю некоторые этапы своей жизни.**

**1. 1899—1905 — студент в Риге, студенческие волнения, к которым присоединились рабочие, Государственная Дума и пр.**

**2. Первый мой митинг свободы в Радошковичах.**

**3. Основание Белорусской Революционной Громады, подпольная работа в Минске, организовал с Александром Бурбисом забастовки сапожников, музыкантов, парикмахеров.**

**4. Редактор первой белорусской газеты «Наша Ніва», 1906 г.**

**5. Редактирование и возрождение белорусов.**

**6. Выборы в «Государственную Думу», первое объединение крестьян выборщиков.**

**7. 1912—1914 — перенес свою работу в Минск.**

**8. 1918—1919. Когда в Минске была большевистская власть, поместил в «Экономической жизни» монографию по истории аграрного вопроса в Белоруссии и по кустарной *промышленности. Собрал всех* экономистов и затеял большую работу.**

**9. Рижский трактат застал меня в Радошковичах.**

**10. 1922. За попытку открыть гимназию в Радошковичах — концентрационный лагерь в Стшелкове.**

**11. Открыл таки гимназию огромными трудами. За шесть лет прошло через гимназию 860 человек и 120 кончило крестьянской молодежи, 860 человек влилось в темную деревню. Этот актив пополнял ряды КПЗБ. В гимназии были все время комсомольские организации по соглашению с компартией.**

**12. Гимназию закрыли поляки, боясь, что мужик станет умней.**

**13. Благодаря гимназии и влиянию ее бывших учеников, Молодеченский уезд считался поляками самым революционным. Когда не предвиделся конец польской оккупации, я поддерживал контакт с бывшими учениками и внушал им революционную бодрость.**

**14. Не уплатил польского займа 100 зл. на войну. Попал на черную доску, дали 4 дня, чтобы представил 60 пудов жита. Грозили на саботаж Картуз-Березой. Вдруг радость, пальба на границе, пришла Красная Армия — спасла Западную Белорусь!**

**15. Батрацкий комитет как народному литератору дал мне 5 га земли, временное управление в Радошковичах подтвердило это.**

**16. Но тов. комиссар в Радошковичах сказал мне, что я «помещик» (60 га земли) и сказал немедленно покинуть Миговку, но на несколько дней отложил.**

**17. Мне 65 лет, я имею архив, документы, фотографии.**

**18. Хочу продолжать писать свои воспоминания, обнимающие 35—40 лет разных эпох и людей, для поучения молодежи.**

**Завтра еду в Молодечно, и *может быть в Вильно,* пишу вам, может быть вы окажете мне помощь, чтобы я не оказался Королем Лиром из Шекспира. Мы с женой так втянулись в работу крестьянскую, а особенно Олег и Дима, как будто век *так живем.* Вчера крестьяне узнали, что меня изгоняют из Миговки. Мысль эта их поразила, как гром. Жена хотела бы сделать школу в Миговке, она была учительницей, я бы тоже хотел бы где-нибудь в библиотеке работать, чтоб мог писать.**

**Выйти из Миговки придется, как стоим, все покинувши в поле. Всю жизнь я работал бесплатно, если пользовался прибавочной стоимостью рабочих Миговки, за то шла моя работа для того же народа.**

**Пишу Вам письмо на случай, если не попаду в Вильно.**

**Если приеду, остановлюсь в «готеле Купецким», Садовая, 8, 1939/12.9.**

**Цісну Вашу руку.**

**А. ВЛАСОВ.**

**Пишу по-русски, ибо на этом языке подал просьбу в Молодечно, Часоваму кіраўніку Маладзечанскага павета».**

---

— 2,5, іншых — 14,8 тысячы чалавек. Такім чынам, на адыходзячай тэрыторыі літоўцы складалі 66,1 працэнта насельніцтва, а беларусы ўсяго — 11,3 працэнта.

Наўрад ці можна было перакроіць граніцу так, каб аддаць Літве тэрыторыі толькі з літоўскім насельніцтвам, бо не пачнеш жа ў межах адной вёскі частку дамоў з літоўскім насельніцтвам адносіць да Літоўскай дзяржавы (а тады гэта была яшчэ незалежная дзяржава), а частку дамоў — да Беларусі. Але пытанне не ў тым, як перакроіць граніцу, а ў тым, ці варта гэтую граніцу наогул перакройваць?! Калі падысці чыста фармальна, то ў цэлым на перададзенай тэрыторыі пераважала літоўскае насельніцтва. Ды аднесена яно было да Літвы (заўважу, — разам з рускімі, беларусамі, татарамі, яўрэямі і г. д.) на падставе кан'юнктурных, абміцыёзных планаў сталінскага ўрада, які лічыў сябе паўнамоцным вырашаць лёсы цэлых народаў.

Варта паглядзець на этнічную тэрыторыю беларускага народа ў межах беларуска-літоўскай граніцы з пазіцыі сённяшняга дня.

Гаварыць аб тым, што дагэтуль у тэрыторыю Літвы ўваходзяць беларускія, г. зн. заселеныя беларусамі значныя тэрыторыі, няма ніякіх падстаў. Праўда, дадзеныя аб нацыянальным складзе насельніцтва асобных раёнаў паводле Усесаюзнага перапісу 1989 года яшчэ не паступілі ў Дзяржстат БССР (прычынай таму і марудлівасць нашых цэнтральных статыстычных органаў, і адсутнасць паперы для друкавання вынікаў перапісу). Але ёсць звесткі папярэдняга Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1979 года. Як паказваюць параўнанні дадзеных перапісу 1979 і 1989 гадоў (якія не кранаюць нацыянальнага складу насельніцтва), рэзкіх зменаў у дэмаграфічных паказчыках паміж перапісамі не адбылося. Дык вось, на 1979-ы год у пагранічных з Беларуссю тэрыторыях Літвы беларусы складалі: у Шальчынінкяйскім раёне — 1537 чалавек, або 3,6 працэнта, у Воранаўскім — адпаведна 468 чалавек (1,2), Ладзінянскім — усяго 29 чалавек (0,07). Калі разглядаць раёны, якія прымыкалі да пагранічных (т. зв. «суседзі другога парадку»), то ў Вільнюскім раёне жыло 5625 беларусаў, у Тракайскім — 2900, у Капсукаскім — 95, у Прэнайскім усяго 38 чалавек. У адносных паказчыках беларусаў было больш за ўсё ў Вільнюскім раёне, але і там яны складалі ўсяго 6 працэнтаў. Літоўцаў жа ва ўсіх гэтых раёнах было 90 і больш працэнтаў.

Натуральна, у чытача ўзнікае пытанне: а колькі літоўцаў жыве ў раёнах Беларусі, якія мяжуюць з Літвой? Больш за ўсё іх у Астравецкім раёне — 1655 чалавек з 32-тысячнага насельніцтва раёна (ці каля 5 працэнтаў). У Воранаўскім раёне — 939 чалавек (2 працэнты). Ва ўсіх астатніх раёнах доля літоўцаў не дасягае і паловы працэнта.

І яшчэ вось пра што хацелася б сказаць. Чаму пытанне аб мяжы паміж Літвой і Беларуссю ўзнікла менавіта ў той момант, калі ў Літве адбываюцца складаныя палітычныя працэсы? Таму, што раней не было для гэтага спрыяльных умоў? Тым не менш, лічу, што такія пытанні павінны вырашацца ў спакойнай абстаноўцы і толькі шляхам перагавораў, а не шляхам аднабаковага прызнання несапраўднымі тых альбо іншых міжнародных дамоўленасцей. Пытанне гэта вельмі складанае. Мы прызнаём непарушнасць межаў у Еўропе, устаноўленых пасля другой сусветнай вайны, але тады чаму мы не прызнаём непарушнасці межаў унутры краіны? Не сакрэт, што адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне Савецкага Саюза ўжо ў значнай ступені састарэла, не адпавядае сваім задачам, але калі цяпер у аднабаковым ды яшчэ ў адміністрацыйна-камандным парадку пачаць яго пераконваць, гэта прывядзе толькі да абвастрэння ўнутрыпалітычнай абстаноўкі.

Усё часцей пытанне этнічнай тэрыторыі таго ці іншага народа з пытання чыста тэарэтычнага, навуковага ператвараецца ў палітычнае. І спрыяюць гэтаму не толькі афіцыйныя дзяржаўныя структуры, а, я б сказаў, і непрадуманыя палітычныя дэмаршы, накшталт заявы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 29 сакавіка 1990 *года, у якой выказваліся* тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы (памылковасць яе прызнаў нядаўна старшыня Камісіі па міжнацыянальных адносінах і нацыянальнай палітыцы Вярхоўнага Савета БССР М. Слямнёў). Садзейнічаюць палітызацыі гэтага пытання і нефармальныя грамадскія рухі суседніх рэспублік. Так, у апошні час актывістамі Саюдзіса актыўна распаўсюджваецца карта Літвы, дзе да Літоўскай дзяржавы аднесены часткі Беларусі і Польшчы. Са свайго боку на Беларусі надрукавана карта акадэміка Я. Карскага 1917 года, дзе ў межы этнаграфічнай Беларусі ўключаны значныя часткі Літвы, Смаленскай і Пскоўскай абласцей, Чарнігаўшчына. (Дык што ж, нам усім цяпер перасварыцца з-за гэтага?) Гэткім жа чынам, скажам, у беларусаў могуць з'явіцца прэтэнзіі да Украіны, якой быў перададзены ў свой час увесь Жабчыцкі раён. Калі трымацца такіх поглядаў, можна прыйсці не толькі да перагляду межаў паміж саюзнымі рэспублікамі, але і да перагляду межаў у Еўропе, у парушэнне Хельсінкскага пагаднення.

Дарэчы, частыя спасылкі ў пытаннях этнічнай тэрыторыі беларускага народа на працы акадэміка Я. Ф. Карскага, як аргумент у карысць таго, што тэрыторыя Беларусі павінна быць значна павялічана, з'яўляецца ўсяго толькі вынікам няўважлівага вывучэння гэтых прац. Цяпер, пасля нядаўняга юбілею — 130-годдзя з дня нараджэння Я. Ф. Карскага — з'явіліся артыкулы, якія, будзем спадзявацца, астудзяць самыя гарачыя галовы. І тут у першую чаргу патрэбна адзначыць працу самога Я. Ф. Карскага «Беларускі народ і яго мова», публікацыя якой пачата ў газеце «Наша слова». Хочацца ў пацвярджэнне прыведзеных вышэй статыстычных дадзеных апошніх перапісаў насельніцтва прывесці цытату Я. Ф. Карскага, мудрага, сур'ёзнага беларускага вучонага: «Калі асобныя члены гэтай народнасці з тых ці іншых прычын трацяць матчыну мову, яны перастаюць разумець сваю прыналежнасць к данаму народу. Разам з чужой мовай яны прымаюць чужыя звычаі, уклады **і для свайго народа з'яўляюцца страчанымі...** (падкрэслена мной.—**С. М.**). Толькі на той выпадак этнаграфічная граніца праводзіцца ў бок данага народа, калі прадстаўнікоў яго ў спрэчным пункце ёсць не менш 50-ці %, а пры некалькіх народах — працэнт большы, як кожнага з іншых». Дык ці маем мы падставу прэтэндаваць на пагранічныя з Беларуссю тэрыторыі Літвы?

*Да таго ж, калі ўважліва* чытаць Я. Ф. Карскага, адразу высняецца, што этнаграфічна выдзеленая ім тэрыторыя Беларусі меншая за тую, што прыпісваюць яму сёння.

Ад таго, што пагарджаючы ўсімі аб'ектыўнымі фактамі і гістарычнымі дадзенымі, мы будзем сцвярджаць, што межы таго ці іншага народа праходзяць *ад мора і да мора,* народ гэты лепш жыць не стане. І культура гэтага народа хутчэй развівацца не будзе. Патрэбна аднавіць, сабраць па крупінках веды пра народ — такія, якія яны ёсць на самай справе, а не такія, як нам хочацца. Несумненна, у мінулым асобныя народы ўладалі значна большымі тэрыторыямі, але чаму мы павінны выкарыстоўваць гэтыя дадзеныя ў сучаснай палітычнай барацьбе?

Вядома, нельга цалкам даследаваць праблему этнічнай тэрыторыі беларусаў у адным артыкуле. Я імкнуўся толькі давесці, што нельга пытанне межаў і тэрыторый народаў вырашаць нейкім камандным метадам. Патрэбны ўважлівы, узаемапаважлівы дыялог.

**Сяргей МАЦЮНІН,**
**аспірант кафедры эканамічнай геаграфіі Мінскага педагагічнага інстытута.**

---

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# КУЛЬТУРА НЕ НАРАДЖАЕЦЦА З НІЧОГА...

**Здавалася б, што час «прынцыпу партыйнасці» кануў у Лету, што нашы дзеці не будуць засмечваць сабе галовы знакамітымі пастулатамі партыйнасці мастацтва, літаратуры і г. д., а возьмуцца за сапраўды вечнае, за тое, што тысячагоддзямі стваралі нашыя продкі. І загучаць на поўную моц родная мова, будуць развівацца нацыянальныя звычаі і традыцыі, рамёствы, фальклор. Ды не! Усё часцей і часцей ідэалагічныя работнікі розных партыйных пасад і ўзроўняў звяртаюцца да сродкаў масавай інфармацыі, каб у чарговы раз напомніць «творчай інтэлегенцыі», служачым, рабочым і іншым пластам нашага грамадства пра знакамітыя «прынцып партыйнасці».**

**У артыкуле «Праз культуру —да *грамадзянскай згоды»* ў брэсцкай абласной газеце «Заря» за 31 студзеня 1991 года загадчыца сектара культуры абкома КПБ А. Сяўрук у сваім роздуме над урокамі перабудовы паведамляе: «Абком партыі, яго ідэалагічны аддзел праз камуністаў, якія працуюць у творчых саюзах, установах культуры, сродках масавай інфармацыі аказваюць падтрымку тым з'явам, тэндэнцыям, напрамкам у духоўным жыцці, якія ў найбольшай меры адпавядаюць сацыялістычнаму выбару».**

**Хочацца спытаць у А. Сяўрук, а што гэта за «сацыялістычны выбар», сацыялістычная культура? І што будзе з тымі, што проста працуюць на ніве культуры, ствараючы агульначалавечыя духоўныя каштоўнасці па законах праўды і сумлення, нягледзячы ні на якія партыі? Хто падтрымае іх? Ці яны будуць, як і дзесяць, сорак і больш гадоў назад, у забыцці, ці ў выгнанні ствараць свае творы, каб у лепшыя часы яны сталі здабыткам свайго народа ці былі назаўжды знішчаны?**

**Як паказаў час, і што асабліва відавочна сёння,— духоўнае адраджэнне, культура сталі нікому не патрэбныя: ні саветам самых розных рангаў, ні правячай партыі. На вачах развальваюцца клубы і ўстановы культуры, яны абкладваюцца падаткамі, пазбаўляюцца датацыі, ім павялічваюць планы па платных паслугах насельніцтву.**

**Больш за семдзесят гадоў убівалася ў нашыя галовы, што наш лад жыцця самы гуманны, самы светлы, а наш народ самы шчаслівы. Знішчаліся тысячагадовыя звычаі і традыцыі, разбураліся кляштары і храмы, паўсюдна ўзгадоўвалася хцівасць *і здрада, а сумленне і* гонар нацыі тапталіся, нішчыліся. А зараз мы ўсе «перабудаваліся». Усе цяпер за «неабходнасць» комплексу мер, закладзеных у праграмах «Родная мова» і «Спадчына». Толькі чамусьці вельмі марудна, выконваецца гэтая праграма. І шматмільённы атрад камуністаў застаўся ад гэтага недзе збоку.**

**І яшчэ некалькі слоў. Прайшла ў нас тэлеперадача «Берасцейскае вогнішча», прысвечаная 10-гадоваму юбілею Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў. Аўтар артыкула пакрыўдзілася, што ў перадачы «не знайшлося месца для прывітання партыйных і савецкіх работнікаў, у той час як для мініяцюр з лялькамі яно знайшлося». Прыйшоўся не даспадобы сюжэт, у якім лялькамі-пісьменнікамі слушна высмейваўся бюракратызм нашага кіраўніцтва, які ўжо дзесяць гадоў абяцае памяшканне для Брэсцкага аддзялення Саюза пісьменнікаў і *ніяк не можа адшукаць.***

**Мне здаецца, што пра гэта сорамна было б згадваць А. Сяўрук. Калі б у Брэсце сапраўды дбалі пра інтарэсы пісьменнікаў, не збіраліся б яны на свае літаратурныя пасяджэнні ў знаёмых і сяброў.**

**Культура не нараджаецца з нічога. Яна ствараецца паступова, вякамі, у штодзённай карпатлівай працы, дзеля дабра сваёй краіны, свайго народа. Яна патрабуе ахвярнасці і разумення, зычлівых адносін з боку ўсіх людзей, арганізацый, партый як маральна, так і матэрыяльна.**

**Прыйшоў час сеяць зерне, зерне нашай роднай мовы, гісторыі, зерне нашай спадчыны. Бо без іх нам не выжыць. Без іх — няма ў нас будучыні.**

**А. ДЭБІШ.**

г. Брэст.

---

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Валянціне ШЧАДРЫНОЙ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці маці.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Васілю ШЫРКО з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

# МАЕМ «ЗАХОДНІЯ ЎСКРАІНЫ»?

Паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавору 1921 года Заходняя Беларусь адышла да Польшчы. Новая ўлада ўстанавіла тут жорсткі акупацыйны рэжым: беларуская мова не прызнавалася; заправілы польскай дзяржавы неаднаразова паўтаралі, што праз дзесяць год на так званых «усходніх крэсах» не застанецца ніводнага беларуса, беларускае насельніцтва будзе апалячана. У 1919 годзе ў Заходняй Беларусі дзейнічала 400 беларускіх школ—да 1935 года іх засталося толькі шаснаццаць.

Найстарэйшай беларускай навучальнаю ўстановай з'яўлялася Віленская беларуская гімназія, заснаваная ў 1918 годзе. Былі адкрыты і рэгулярна працавалі гімназіі ў Слуцку, Радашкавічах, Навагрудку, Клецку і Гродне. Гродненская беларуская гімназія, як сведчыў Павел Аляксандравіч Тамашчык, які працаваў у ёй інспектарам, праіснавала каля двух гадоў. Яна размяшчалася на вуліцы Горкага ў тым месцы, дзе зараз знаходзяцца старыя будынкі дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

У снежні 1924 года ў Віленскай беларускай гімназіі было 247 чалавек—129 хлопцаў і 118 дзяўчынак. Па рэлігіі вучні дзяліліся: на праваслаўных—183, католікаў—35, лютэран—2, кальвіністаў—1, старавераў—5, мусульман—3. Па нацыянальнасці вучні і вучаніцы пісаліся амаль усе беларусамі (92%). У гімназіі было 8 класаў па 20—40 вучняў. Апошні выпуск гімназіі ў 1923—1924 навучальным годзе склаў 19 чалавек, з іх 13 дзяўчат і 6 хлопцаў. Нягледзячы на тое, што гімназія існавала як прыватная, у вельмі цяжкіх матэрыяльных умовах ёй у 1924 годзе ўдалося купіць вялікую бібліятэку (каля 14000 тамоў беларускіх, рускіх, польскіх, нямецкіх і французскіх кніг). Меліся разнастайныя школьныя прылады па прыродазнаўстве і геаграфіі.

**За ўвесь час (да 1924—1925-га навучальнага года) Віленскую беларускую гімназію скончылі 144 чалавекі. Педагагічны персанал гімназіі налічваў 20 добра падрыхтаваных выкладчыкаў. У 1922 годзе дырэктарам Віленскай гімназіі быў Браніслаў Тарашкевіч, аўтар першай беларускай граматыкі для школ.**

**Апрача сярэдніх беларускіх навучальных устаноў, існавалі і працавалі пачатковыя школы. У Вільні была ўрадавая пачатковая беларуская школа на вуліцы Вастрабрамскай, 9. У школе было сем аддзяленняў, у якіх навучалася 150 вучняў. Да 1925—1926 навучальнага года існавала і рэгулярна працавала беларуская школа ў Гродне (Беларуская сямігадовая школа № 4). Кіраўніком гэтай школы, якая размяшчалася на вуліцы Паўночнай у будынку, дзе цяпер знаходзіцца музычнае вучылішча, быў Уладзімір Федарук (у 1939 годзе, пасля вызвалення Заходняй Беларусі, па даносу быў рэпрэсіраваны). У ёй налічвалася 170 вучняў. Па загадзе польскіх улад школа была закрыта восенню 1926 года, вучні накіраваны на вучобу ў польскія школы горада.**

У розных мясцовасцях Заходняй Беларусі, акрамя таго, існавалі прыватныя пачатковыя беларускія школы, але весткі захаваліся толькі аб дваццаці. У іх працавалі настаўнікамі пераважна людзі без педагагічнай падрыхтоўкі, «самавукі».

Апрача беларускіх школ, якія ў канчатковым выніку былі закрыты, у Гродне існаваў адзіны прытулак, якім да апошняга часу кіравала сястра паэтэсы Канстанцыі Буйло Станіслава Буйло. Прытулак гэты размяшчаўся ў будынку былога мужчынскага манастыра Барыса і Глеба. Зараз на тым месцы знаходзіцца Гродзенскі абласны драмтэатр. У той час манастыр быў агароджаны высокай каменнай сцяною, вокны келляў выходзілі на Нёман. Каля яго быў невялікі сад і чатыры калоды пчол, якія даглядаў стары манах Іёна. Я ў той час вучыўся ў Гродзенскай польскай настаўніцкай семінарыі, будынак якой размяшчаўся недалёка, і добра памятаю гэтага старога манаха, які не падпарадкоўваўся польскім уладам. Хаця манастыр быў закрыты, Іёна працягваў жыць адзін у келлях. У святочныя дні над уваходнай брамай манах вывешваў бел-чырвона-белыя беларускія сцягі. Аб гэтым успамінае ў сваёй кнізе «Гродна» (1920 г.) вядомы польскі археолаг, стваральнік і кіраўнік Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея Юзаф Ядкоўскі: «Кляштар гэты ў 1854 годзе быў ператвораны ў праваслаўны Барыса-Глебскі манастыр. Цяпер у ім знаходзіцца беларускі прытулак, а на браме яго развяваюцца сцягі не існуючай беларускай дзяржавы».

**У 1921 годзе кіраўніца прытулка Станіслава Буйло цяжка захварэла, не магла ўставаць з пасцелі. Яе лячыў доктар Бляўскі, апякун прытулку. Другім апекуном быў Сяргей Баран. Станіслава Буйло пра сябе асабіста нікому не расказвала. Толькі ў дзень сваёй смерці сказала, што ў Савецкім Саюзе жыве яе сястра, паэтэса, але прыехаць яна сюды не зможа. Жалобную паніхіду па Станіславе адправіў і праводзіў на могілкі манах Іёна. Ксёндз хаваць яе адмовіўся. Была глыбокая восень. Стаяла ціхае, цёплае надвор'е. За трунай ішлі ўсе работнікі беларускага прытулку, у тым ліку доктар Бляўскі з жонкай, Сяргей Баран, многія іншыя беларусы, якія прыйшлі правесці ў апошні шлях любімую Станіславу Буйло. Дзеці плакалі, бо любілі і шкадавалі сваю кіраўніцу: яна турбавалася за іх. Перад смерцю прасіла, каб прытулак не аддавалі палякам, а захавалі беларускім. Але просьба яе не здзейснілася. Неўзабаве прытулак быў закрыты, настаўнікі раз'ехаліся. Старыя могілкі, якія знаходзіліся недалёка ад праваслаўнага сабора, дзе пахавалі Станіславу Буйло, пазней былі закрыты.**

**Цяпер месца пахавання ўстанавіць немагчыма. Некалькі разоў у Гродна прыязджала яе сястра Канстанцыя Буйло, але адшукаць магілу ніхто не змог.**

У 1937 годзе ў Заходняй Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы, ніводнага дзіцячага беларускага прытулку. Але працоўныя Беларусі вялі барацьбу за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы. Таварыства беларускай школы, культурна-асветніцкія арганізацыі працоўных Заходняй Беларусі праводзілі шырокую работу па арганізацыі барацьбы за беларускую школу. Кіраўнікамі і актыўнымі дзеячамі ТБШ у розны час былі Б. Тарашкевіч, І. Дварчанін, Р. Шырма, П. Мятла, С. Паўловіч і іншыя.

Беларускі народ стагнаў пад уціскам санацыйнай улады. Але, як кажуць, час—найлепшы лекар. Ён прынёс народу Заходняй Беларусі вызваленне. Адкрыліся беларускія школы, зазвінелі ў іх дзіцячыя галасы, загаманілі на роднай матчынай мове. Але не надоўга. Пасля вайны беларуская мова, як і пры Польшчы, зноў трапіла ў няміласць, стала не даспадобы апаратчыкам і функцыянерам. Пачалося ганенне тых, хто ёю валодаў, ім прыпісваўся нацыяналізм, нацдэмаўшчына і іншыя рысы «ворагаў народа». Шырокім фронтам пачала праводзіцца інтэнсіўная русіфікацыя, «слияние всех языков в единый великий русский язык». Шлях стварэння адзінай нацыі—«советского народа», на які нас накіроўвалі «любимый отец всех народов», тэарэтык Суслаў і К°, атрымаўся для ўсіх народаў згубным, катастрафічным. Беларускія школы без ніякіх на гэта падстаў пачалі пераводзіцца ў рускія. Я ў той час працаваў школьным інспектарам Гродзенскага аддзела народнай асветы і памятаю: хто хацеў, той і пераводзіў. У выніку такога становішча не стала беларускіх школ не толькі ў Гродне, але і ў вёсках, а якія школы і захоўваліся,—дык толькі фармальна беларускімі (Путрышкаўская, Верцялішская, Цідовіцкая, Падліпская, Дзерачынкоўская сярэднія, Гібуліцкая, Жукевіцкая, Брузгінская, Галавацкая і іншыя васьмігадовыя школы). Выкладанне большасці прадметаў праводзілася ў іх на рускай мове. Беларусы дажыліся да таго, што нават у іхняй сталіцы, у паўтарамільённым Мінску, былі ліквідаваны ўсе беларускія школы. Няма іх у Гродне і па сённяшні дзень.

**Да гэтага часу ў Гродне ва ўсіх школах адкрыта толькі 19 першых класаў з беларускай мовай навучання. Кіраўніцтва народнай асветы не цікавіцца як след беларускімі школамі, Закон «Аб мовах у Беларускай ССР» ні да чаго іх не абавязвае. Напрыклад, вось як рэагаваў на адкрыццё першых класаў з беларускай мовай навучання загадчык Гродзенскага гарана А. Г. Дудзін. На пытанне карэспандэнта газеты «Ці пачнуць сёлета першакласнікі ў адпаведнасці з Законам аб дзяржаўнасці беларускай мовы вучобу ў школьных сценах на мове сваёй бацькаўшчыны?» ён адказаў: «Заяў (ад бацькоў), як высветлілася, аказалася няшмат, як быць? Вядома, трэба прыслухоўвацца да думкі бацькоў... Улічваючы гэта, мы сёлета вырашылі для дзяцей, бацькі якіх катэгарычна супраць беларускай мовы, у беларускамоўных школах адкрыць рускія класы» («Гродзенская праўда» ад 30. 08. 1990 г. ).**

Вось вам і Закон аб мовах! Ці не часцей у школах адкрываюцца класы з польскай мовай навучання?! Да сённяшняга дня беларускіх школ у Гродне як не было, так і няма, не кажучы ўжо пра беларускія гімназіі, якія, для параўнання, існавалі нават у перыяд жорсткага рэжыму санацыйнай Польшчы. Так што мы на Гродзеншчыне перажываем зноў «крэсы», толькі не «ўсходнія», а «заходнія», і не «крэсы», а «окраины», на якіх мы апынуліся дзякуючы «любимому отцу всех народов» і яго паслугачам, розным функцыянерам, апаратчыкам, бюракратам.

**А. ЦЫХУН,**
**заслужаны настаўнік БССР.**

г. Гродна.

Былы інспектар Гродзенскай беларускай гімназіі Павел Аляксандравіч Тамошчык.

Настаўнікі і вучні другога класа Гродзенскай беларускай сямігадовай школы № 4.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

## З КЛОПАТАМ ПРА БУДУЧЫНЮ

**Адбылося чарговае пасяджэнне Светлагорскага народнага універсітэта беларускай гісторыі і культуры, які працуе пры мясцовай школе мастацтваў. Лекцыю «Лексічнае багацце беларускай мовы» прачытала кандыдат філалагічных навук, выкладчыца Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны В. Ляшчынская. Загадчык аддзела літаратурнага жыцця штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» А. Марціновіч расказаў аб тым, што зроблена і робіцца выданнем дзеля нацыянальнага Адраджэння. В. Ляшчынская і А. Марціновіч адказалі на шматлікія пытанні прысутных.**

**Вёў пасяджэнне старшыня рады Светлагорскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны І. Катляроў.**

## У РАМКАХ «КНІЖЧЫНЫХ ІМЯНІН»

**Фінішаваў чарговы Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай літаратуры. На гэты раз цэнтрам правядзення яго была выбрана вядомая дзіцячая здраўніца «Артэк». У літаратурным свяце, якое праходзіла ля Чорнага мора, прынялі ўдзел вядомыя дзіцячыя пісьменнікі С. Аляксееў, С. Іваноў, В. Берастаў, В. Кава, М. Юхма і іншыя. Беларускую літаратуру прадстаўляў дырэктар выдавецтва «Юнацтва», паэт В. Лукша.**

**Адбыліся шматлікія сустрэчы з дзецьмі, а паколькі ў «Артэку» папраўляюць здароўе і адпачываюць дзеці з усёй краіны, з поспехам прайшлі ўрокі роднай літаратуры, мовы, і, зразумела, у рамках «Кніжчыных імянін» літаратары, выдаўцы абмяркоўвалі праблему выпуску дзіцячай літаратуры ва ўмовах рынку.**

## БАЛЕТ КАРТЭСА НА КУБЕ

**У гасцінай Дома работнікаў мастацтва члены секцыі харэаграфіі СТД БССР сустрэліся з вядомым беларускім кампазітарам Сяргеем Картэсам.**

**Падставай для размовы стала пастаноўка яго балета «Апошні інка» Нацыянальным балетам Кубы, якім кіруе знакамітая Алісія Алонса.**

**Задума напісаць балет узнікла ў кампазітара ў 1985 годзе пад час правядзення Міжнароднага фестывалю музыкі ў Маскве. Калі партытура была гатова, ёй зацікавіліся на Кубе. Спектакль, пастаўлены харэографам Густавам Эрэра, аднаактовы, ён доўжыцца каля гадзіны.**

**Прэм'ерныя паказы балета «Апошні інка» адбыліся летась у кастрычніку — лістападзе ў Гаване ў час правядзення Міжнароднага фестывалю танца. На іх быў запрошаны і С. Картэс. У фестывалі ўдзельнічалі многія выдатныя балетныя трупы — такія, як трупа тэатра «Калон», трупа пад кіраўніцтвам вядомага танцоўшчыка Хуліа Бока і інш. Сапраўды каласальны поспех на фестывалі выпаў балету беларускага кампазітара. Зараз вядуцца перагаворы аб тым, каб ён быў пастаўлены Г. Эрэра на сцэне нашага тэатра оперы і балета.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара —33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ —33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ —33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ —33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА—33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ —33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС, Юрась ЗАЛОСКА—33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ —33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.





Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12